# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 15 (277) 19 — 25 красавіка 1997 г. КОШТ 2000 РУБ

ДЫСКУТУЕ•ПРЭЗЕНТУЕ•РАЗВАЖАЕ




Пра тое, што Міністэрства культуры нашай дзяржавы, паставіўшы заслон "фанеры" на айчыннай эстрадзе, мае рацыю, засведчыў нядаўні выпадак з "суперзоркай" расійскай эстрады Валерыем Лявонцьевым. У час ягонага выступлення ў рэспектабельным канцэрце ў гонар дня нараджэння Алы Пугачовай, які трансляваўся на шматмільённую аўдыторыю, нечакана "паплыла" фанаграма. "Мізансцэна на сцэне" з разведзенымі ў бакі рукамі артыста была вартая гогалеўскага "Рэвізора"... Зусім не хочацца ёрнічаць з гэтай недарэчнасці. Аднак, ці варта залежаць "зорцы" ад "стрэлачніка"?

Мусіць, і вам, як і нам, даводзілася пакідаць залу пасля эстраднага канцэрта з сапсаваным настроем, з адчуваннем, што цябе падманулі? Думаем, што такое здаралася ў вашым жыцці і здаралася менавіта тады, калі зрывалася фанаграма, спявак "нямеў" на вачах у публікі, ператварыўшыся ў немаўля, якое няўцямна адкрывае рот і бездапаможна пляскае вуснамі.

Ну што ж, выдаткі здараюцца ва ўсялякай рабоце, і нават у творчай, скажаце вы. Але ці не ператвараецца творчасць эстраднага выканаўцы ў вытворчасць дзякуючы той самай "фанеры", пра адмоўную сутнасць якой шмат ужо гаварылі і пісалі? Дык ці можа атрымацца яркі твор, які адзін раз праспявалі, а ўсе наступныя канцэрты толькі "падрабляюцца" пад першы запіс?

Адназначна, артыст губляе і прафесіяналізм, і давер публікі. Пра гэта — каментар і разважанні на стар. 2 — 3.

**"К"**



# "ФАНЕРА"...

## ЗАГАД

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь № 109 ад 10.04.97 г.**
***"Аб упарадкаванні практыкі выкарыстання фанаграм у канцэртнай дзейнасці"***

У апошнія гады выкарыстанне сучасных аўдыёвізуальных тэхнічных сродкаў значна пашырыла мастацка-выразныя магчымасці эстрадных выканаўцаў і калектываў. Адначасова, з безумоўна станоўчымі тэндэнцыямі ўдасканалення тэхнічнага аснашчэння, у канцэртнай дзейнасці асобных выканаўцаў і калектываў сталі ўсё часцей назірацца факты прафанацыі канцэртнага выканання і імітацыі творчага выканальніцкага працэсу. Асабліва трывожна, што такія негатыўныя формы канцэртнага выканання, а таксама замена "жывых" творчых зносін з гледачом музычнымі "падробкамі" пранікае ў дзіцячую самадзейную творчасць. Усё гэта прыводзіць да парушэння правоў слухачоў, паніжэння прафесійнага ўзроўню эстрадных выканаўцаў.

У сувязі з вышэйадзначаным, на падставе Закону Рэспублікі Беларусь "Аб абароне правоў спажыўцоў" (артыкулы 7, 8, 10 (пункт 1), 12 (пункт 2), 15) і ў мэтах упарадкавання практыкі выкарыстання фанаграм у канцэртнай дзейнасці



**ЗАГАДВАЮ:**

1. Увесці ў абавязковую практыку дзейнасці дзяржаўных канцэртных арганізацый правядзенне публічных канцэртаў без выкарыстання фанаграм.
2. Забараніць выкарыстанне музычных фанаграм ва ўрадавых мерапрыемствах.
3. У выпадках, калі выкарыстанне фанаграм прадыктавана мастацкай задумай музычнага твора ці канцэрта, у рэкламнай прадукцыі і іншых формах інфармавання гледача павінна быць дадзена поўная інфармацыя аб выкарыстанні фанаграм.
4. Дзяржаўным канцэртным арганізацыям і установам прадугледзець выплату павышаных ганарараў выканаўцам і творчым калектывам, якія не выкарыстоўваюць фанаграму ў канцэртнай дзейнасці.
5. Ускласці адказнасць за выкананне данага загаду на кіраўнікоў дзяржаўных канцэртных арганізацый і ўстаноў.
6. Кантроль за выкананнем данага загаду ўскласці на начальніка аддзела музычных устаноў і цыркаў Матвіеўскага А.Ф.

**Міністр А.У.Сасноўскі**

РЭПАРЦЁРСКІ МАРАФОН

Афіцыйна

# ІМІТАВАЦЬ СПЕЎ — ХВАРОБА ЗАРАЗЛІВАЯ

***Загад Міністэрства культуры Беларусі "Аб упарадкаванні практыкі выкарыстання фанаграм у канцэртнай дзейнасці" ад 10 красавіка, зразумела ж, будзе мець значныя вынікі як для выканаўцаў, так і для слухачоў. Таму прапануем нашым чытачам каментарыі першага намесніка міністра культуры Уладзіміра РЫЛАТКІ.***

**— Уладзімір Пятровіч, у загадзе выкарыстана мяккая фармулёўка: "увесці ў практыку". Гэта значыць, што ён мае хутчэй рэкамендацыйны характар?**

— Хацелася б адзначыць, што гэта не першая спроба ўпарадкаваць выкарыстанне фанаграм у творчым працэсе эстрадных выканаўцаў. Такія захады пачаліся з 70-х гадоў. Але спробы засталіся спробамі, і ў наш час большасць выступленняў праходзіць пад фанаграму. Гледачы ўсё часцей атрымліваюць на канцэртах "падробкі". Менавіта абараніць ад гэтага гледачоў, інакш кажучы, "спажыўцоў культурнай прадукцыі", і павінен загад Міністэрства. Недарма ў ім ёсць спасылка на Закон аб абароне правоў спажыўцоў. Разам з тым загад выдадзены ў інтарэсах выканаўцаў, у мэтах папярэджвання творчага занепаду, захавання творчага патэнцыялу, ды і захавання на належным узроўні голасу, у рэшце рэшт. Асабліва гэта важна для моладзі, для пачынаючых выканаўцаў. Магчымасць не спяваць, а імітаваць спеў вельмі заразлівая. У выніку маладыя выканаўцы, якія ў наш час могуць заявіць аб сабе хутка, таксама хутка сваю папулярнасць і губляюць. Бо перастаюць спяваць "ужывую" — а гэта значыць, і ўвогуле спяваць.

Для дзяржаўных канцэртных арганізацый загад мае абавязковы характар. Абсалютна выключана выкарыстанне фанаграм ва ўрадавых мерапрыемствах. Як вядома, удзел у такіх мерапрыемствах асабліва прэстыжны для любога выканаўцы.

Спевакі зараз будуць больш клапаціцца аб інструментальным суправаджэнні, аб якасці апаратуры. Ужо цяпер да нас звяртаюцца з просьбамі аб дапамозе ў гэтай справе. Зразумела, будзем дапамагаць.

**— Што да выключэнняў, то як бы Вы "расшыфравалі" тэкст загада?**

— Згодна з загадам, дазваляецца выкарыстоўваць фанаграмы, калі гэта прадыктавана мастацкай задумай. Цяпер не рэдкасць, калі нават у сімфанічных творах выкарыстоўваюцца запісы тых ці іншых унікальных інструментаў альбо гукаў. Ёсць спосабы ўзнаўлення запісу, які і фанаграмай на назавеш, напрыклад, праграмы для сінтэзатараў ці музычных камп'ютэраў. Шырока выкарыстоўваюцца фанаграмы "мінус адзін" (гэта значыць, без голасу) на конкурсах, у тым ліку і на конкурсах сусветнага ўзроўню. Зразумела, выканаўца і тут абмежаваны ў сваіх магчымасцях, не можа змяніць тэмп ці адводна ўзяць дыханне, але на гэтыя абмежаванні трэба ісці. Таксама як і на патрабаванні тэлевізійных трансляцый, калі фанаграмы павінны выкарыстоўвацца згодна з тэхналагічнымі нормамі трансляцыі ці запісу.

Як правіла, музычныя запісы выкарыстоўваюцца ў выступленнях харэаграфічнымі калектывамі — гэта зразумела. Бываюць выпадкі, калі фанаграмы маюць самадастатковую мастацкую каштоўнасць, дзе выкарыстоўваюцца гукавыя эфекты, якія немагчыма ўзнавіць ва ўмовах канцэртнай залы. Наогул, загад не ставіць мэтай павярнуць назад развіццё музычных тэхналогій. І нарадзіўся ён у выніку кансультацый з вядучымі выканаўцамі. Я б нават сказаў, гэта ініцыятыва самога творчага асяроддзя. Выканаўцы самі закалочаны захаваннем узроўню выканання. Апрача гэтага, немалаважны момант — сацыяльная справядлівасць. Чаму, напрыклад, піяніст адпрацоўвае канцэрт "ужывую", а спявак можа сабе дазволіць "імітацыю"? Такія з'явы, можа, і прыкметы нашага часу, але дзіўныя прыкметы. Таму загад з'явіўся нават крыху пазнавата.

**— Згадзіцеся, вельмі важна пракантраляваць выкананне загаду. Гэта прадугледжана?**

— У Міністэрства, зразумела, ёсць свае формы кантролю, і яны будуць скарыстаныя. У выпадках выкарыстання фанаграм слухачы, гледачы мусяць быць абавязкова папярэджаны. Вядома ж, ніводны выканаўца не стане сам казаць пра фанаграму, але пра гэта ўжо будзе абавязана паведаміць канцэртная ўстанова.

Па-другое, існуе і будзе выкарыстоўвацца грамадскі кантроль. Грамадскі рэзананс праз прэсу таксама мае вялікае ўздзеянне на выканаўцаў. Але галоўнае, на мой погляд — самакантроль. Цяпер, калі выканаўцы ведаюць пазіцыю Міністэрства, выступленне без запісаў будзе справай прэстыжу, захавання імя. Імя — гэта галоўнае для выканаўцы, як пачаткоўца, так і мэтра. Звярніце ўвагу, у 60-70-х гадах, калі выкананне "ужывую" было звыклым, выраслі тыя зоркі, якія да гэтай пары ўпрыгожваюць беларускую эстраду. Але мала хто з маладых можа сёння выйсці на сцэну і праспяваць канцэртнае аддзяленне, тым больш, цэлы канцэрт.

**— У якой ступені загад датычыцца тых спевакоў, што прыязджаюць да нас на гастролі?**

— Зразумела, мы не можам навязваць свае правілы запрошаным артыстам. Але і яны, у сваю чаргу, не могуць навязваць нам свае. Што датычыцца выканаўцаў з Захаду, то, звычайна, яны не апускаюцца да ўзроўню адкрывання рота пад запіс, яны заўсёды вязуць з сабой тоны апаратуры. Аднак заходнія выканаўцы ў нас бываюць рэдка, часцей да нас прыязджаюць расійскія артысты. Дарэчы, у Расіі, як мне вядома, пытанне аб выкарыстанні фанаграм на канцэртах разглядаецца ўжо на ўзроўні падрыхтоўкі адпаведнага федэральнага закону.

**— У загадзе адзначана, што выканаўцам, якія абыходзяцца без фанаграм, будзе выплочвацца павышаны ганарар. У якой меры павышаны?**

— Гэты пункт мы адрасавалі хутчэй самі да сябе. Нам хацелася б, каб выканаўцы "адчулі розніцу", каб кожны, хто выступае "ужывую", быў адзначаны за "творчую доблесць", за шчырасць да слухачоў. Адзначаны прыкметна.

Запісаў Ігар КЛОКАЎ

## АЛЯКСАНДР



— Загад? Так, чуў, але пакуль што не чытаў. Вось у "Культуры" і пачытаю...

**— Словам, Саша, трэба будзе, вобразна кажучы, мяняць "плюс 1" на "мінус 1". Гэта той рэдкі ў практыцы чалавецтва выпадак, калі ад плюсавай катэгорыі няма ніякай карысці... Дарэчы, ты глядзеў учора па ОРТ канцэрт з нагоды дня нараджэння Алы Пугачовай?**

— Глядзеў, безумоўна.

**— Ну, а што скажаш наконт канфузу з Лявонцьевым? Гэта ж жывая ілюстрацыя "як не трэба". Проста да загада міністра культуры Беларусі!**

— Валеру Лявонцьева падставілі, вось і ўсё. Хоць ён на тэрыторыі СНД — лепшы выканаўца і віртуозна валодае голасам.

**— І ўсё ж, як ты, выканаўца, якому даводзіцца часам на тых жа гастролях у буйных гарадах або ў глыбінцы даваць па некалькі канцэртаў на дзень, лічыш...**

— ...Трэба працаваць толькі "жыўцом".

**— А вось табе, Саша, даводзілася карыстацца фанаграмай "плюс 1", калі наогул спяваць няма ніякай неабходнасці? Раскрывай сабе рот без напругі...**

— Даводзілася, зразумела...

***Працягваем публікацыю серыі інтэрв'ю з кіраўнікамі творчых саюзаў нашай дзяржавы (№№ 10—12, 14 за 1997 г.). Мяркуем, што пра свой боль і надзеі раскажуць "К" і іншыя дзеячы культуры, якія ўзначальваюць творчыя грамадскія арганізацыі. А каб распачатая гаворка мела лагічны вынік, наша газета вырашыла напрыканцы яе наладзіць "круглы стол". Акрамя кіраўнікоў саюзаў, мы маем намер запрасіць на яго ўладных чыноўнікаў і заканадаўцаў. Словам, тых людзей, ад каго практычна залежыць рэалізацыя творчага інтэлектуальнага патэнцыялу дзяржавы.***

# Ігар ЛУЧАНОК: "КАРАЦЕЙ, НЕ ЎСЁ ТАК КЕПСКА..."

***Мы сустрэліся са старшынёй Саюза кампазітараў, народным артыстам СССР і Беларусі Ігарам ЛУЧАНКОМ у ягонай утульнай кватэры. Не паспеў я задаць яму першае пытанне, як Ігар Міхайлавіч пачаў напяваць мне свае новыя мелодыі. Гэта ягоны характар — выбуховы, эмацыйны, захапляльны і... незалежны. А песні былі: на верш... Карла Маркса "Дудчык" у перакладзе Васіля Сёмухі, потым, як кажуць, "з ліста", кампазітар праспяваў вясёлую "На флоте бабочек не ловят" на тэкст мурманскага паэта Уладзіміра Жданава. А скончыў песняй на верш Васіля Зуёнка "Гара з гарою не сыходзяцца..." Вось такі ён "інтэрнацыяналіст", Ігар Лучанок. Аднак, як любіла паўтараць яркая "зорка" эстрады Ала Барысаўна: "делу — время, делу — время...", давялося Ігару Лучанку ўсё ж "улезці" ў скуру адміністратара.***

**— Ігар Міхайлавіч, мы з табою чвэрць стагоддзя добрыя знаёмыя, але чым для цябе з'яўляецца эстрадная песня, мы так ніколі і не высвятлялі.**

— У эстрадзе павінен быць высокі мастацкі густ. І ў вершах, і ў музыцы. Як казаў Мацвей Блантэр, "песня — не бульба: чым яе болей — тым лепш". Хаця і бульбу мы ўсе імкнемся выбраць якасную. Для мяне песня — гэта штосьці асаблівае. Я ў ёй жыў, жыву і, спадзяюся, яшчэ доўга буду жыць...

**— Так, іншы раз узнікае настальгія па старой добрай песні. Той жа Фрадкін, з'ява творчасці Кабзона, Лешчанкі, Хіля. З'ява Мулявіна... А што зараз адбываецца ў беларускай эстрадзе?**

— На жаль, у нашым Саюзе кампазітараў не так ужо і шмат сапраўдных "песеннікаў", не больш за дзесятак... Падробак "пад песню", безумоўна ж, хапае, але хіба ж гэта песня, калі яна не мае галоўнага — мелодыі?

**— Саюз кампазітараў... Што ён сёння з сябе ўяўляе?**

— Пытанне няпростае... Час, мабыць, зараз такі, што на першы план вылучаюцца праблемы далёка не творчыя. Але тым не менш, Саюз жывы, тут ствараецца сур'ёзная музыка — і музыка таленавітая.

**— Карацей, не ўсё так кепска, як здаецца?**

— Так, не ўсё так кепска. Адзінае, што непапраўна і з чым ніколі немагчыма змірыцца, гэта адыход нашых сяброў і калег. Ігар Палівода, Уладзімір Алоўнікаў... Вечная ім памяць.

**— А ці ёсць папаўненне ў Саюза? Дарэчы, колькі сяброў налічвае зараз Саюз кампазітараў?**

— Троху болей за сто прафесійных кампазітараў і музыказнаўцаў. Колькасна наша творчая арганізацыя адносна невялікая ў параўнанні з іншымі творчымі саюзамі. А што да папаўнення... Летась сябрамі нашага Саюза сталі Аліна Чыжык-Безансон і Ганна Кароткіна.

**— Я ведаю, што многія з сяброў Саюза за апошні час былі адзначаны высокімі прэміямі і званнямі.**

— Так, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі сталі Андрэй Мдзівані за музыку да балета "Страсці", Уладзімір Дамарацкі за Канцэрт № 2 для трубы і сімфанічнага аркестра і вялікі ўнёсак у развіццё жанру інструментальнага канцэрта.



**— Я памятаю ягоны юбілейны аўтарскі вечар, на якім адбылася прэм'ера гэтага Канцэрта...**

— Раней існаваў толькі запіс, зроблены на радыё... І зноў "жывы" аркестр прагучыць падчас прэм'еры ягонага мюзікла "31 чэрвеня"... Далей. Прэміяй Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі была адзначана песенная творчасць Эдуарда Зарыцкага. Памятаеш ягоную аўтарскую вечарыну на Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне?

# САЛДАТЫ ПАВІННЫ СПЯВАЦЬ

***11 красавіка ў Цэнтральным Доме афіцэраў адбылося пасяджэнне Рэспубліканскай камісіі па шэфстве работнікаў культуры і мастацтва над асабовым саставам Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь.***

На высокай нарадзе з дакладамі выступіў міністр абароны генерал-палкоўнік Аляксей Чумакоў, які акрэсліў асноўныя задачы, што стаяць перад асабовым саставам Узброеных сіл. Міністр культуры Аляксандр Сасноўскі ў сваю чаргу паведаміў пра прыярытэтныя накірункі развіцця і падтрымкі беларускай культуры, да якіх адносяцца: клопат пра традыцыйную культуру, праблема захавання класічных устаноў навучання музыцы, жывапісу, харэаграфіі і г.д., а таксама адкрыццё маладзёжнага тэатра эстрады. Абодва міністры адзначылі станоўчыя вынікі працы камісіі — выступленне артыстаў перад вайскоўцамі,якія нясуць нялёгкую службу, што дазваляе гэтым людзям пазбавіцца стрэсу і псіхалагічнай стомленасці, дае магчымасць сем'ям афіцэраў адчуць сябе не адарванымі ад усяго свету. Адсюль нармальны мікраклімат у дамах вайскоўцаў. Адсюль і ідзе заўважнае зніжэнне смяротнасці ў войсках пры няшчасных выпадках. За апошні год, як запэўніў міністр абароны, яна скарацілася ўдвая. Культура ў прамым сэнсе гэтага слова дапамагае людзям жыць.

Пасля дакладаў міністраў адбыліся спрэчкі, дзе выказваліся крытычныя меркаванні, з некаторымі з іх можна было пагадзіцца, а з некаторымі — не, але ўсе яны былі па-армейску канкрэтныя і шчырыя.

Так пісьменнік, генерал-маёр авіяцыі ў запасе Анатоль Сульянаў, які працуе з асуджанымі дысбата, слушна заўважыў, што самае дзейснае выхаванне — гэта выхаванне культурай і што "час грубасці і мата прайшоў", але, з другога боку, генерал заявіў, што хадзіць у тэатр ён не можа, бо там, напрыклад у Рускім тэатры, "паказваюць Чонкіна" дый яшчэ могуць штосьці непрыемнае для войска паказаць.

Цікавым было выступленне запрошанага на паседжанне праваслаўнага святара, настаяцеля Сергіе-Георгіеўскай царквы, айца Сергія Кузьмянкова. Лейтматыў яго выступлення: трэба руліцца аб духоўным багацці салдат і афіцэраў. Але пытанні прыналежнасці да той або іншай канфесіі таксама не могуць абмінацца. Відаць, трэба ўлічваць, што на тэрыторыі Беларусі жывуць людзі розных веравызнанняў.

Пісьменнік Юрый Каршукоў прапанаваў арганізаваць сустрэчы творчай інтэлігенцыі з вайскоўцамі ў Доме літаратара.

"Спяваючы камбрыг" Анатоль Панчанка выказаў заклапочанасць, маўляў, апошнім часам з'явілася тэндэнцыя, што пастаноўка ўсіх свят, прысвечаных Дню абаронцы айчыны і Дням родаў і відаў войскаў, ажыццяўляецца цывільнымі рэжысёрамі, а яны, бывае, прэтэнцыёзна ставяцца да творчасці вайскоўцаў, але салдат павінен спяваць — бо "калі салдаты не будуць спяваць, то дзеці не будуць спакойна спаць".

Многія выступоўцы негатыўна паставіліся да таго факта, што на канцэртах некаторыя спевакі і музыкі выкарыстоўваюць фанаграмы. На гэта міністр культуры адказаў, што ягоным загадам выкарыстанне фанаграм у дзяржаўных канцэртах ужо забаронена.

Напрыканцы паседжання лепшым дзеячам культуры ад Міністэрства абароны былі ўручаны каштоўныя падарункі і граматы. Сярод адзначаных — Генадзь Бураўкін, Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Анатоль Ярмоленка і іншыя творцы.

**Серж МІНСКЕВІЧ**

# ПРЭЗІДЭНТ БРАЗІЛІІ НА СПЕКТАКЛІ БЕЛАРУСКАЙ ОПЕРЫ



***29 сакавіка наша опера накіравалася ў сваё самае далёкае і самае экзатычнае падарожжа — у бразільскі горад Манаўс, што размешчаны на самым экватары на беразе Амазонкі пасярод суцэльнага зялёнага мора трапічнай сельвы.***

Там намаганнямі менеджэра, 25-гадовага нямецкага скрыпача Міхаэля Ельдэна арганізаваны I Міжнародны музычны фестываль, прымеркаваны да 100-годдзя галоўнай славутасці горада — дзівоснага тэатральнага будынка, які многія лічаць найпрыгажэйшым оперным тэатрам свету. Яго стваральніку, апантанаму марай, каб на Амазонцы гучалі лепшыя оперныя галасы, нават прысвечаны фільм "Фіцкаральда" рэжысёра Вернера Херцага, адзначаны прэміяй славутага Канскага кінафестывалю. Калі задума М.Ельдэна спраўдзіцца ў поўным аб'ёме, сціплы правінцыйны Манаўс, які нібыта распластаўся ля ног увянчанага купалам прыгажуна-тэатра, ператворыцца ў фестывальны цэнтр — "Зальцбург тропікаў". Поспех Першага фестывалю ў значнай ступені залежыць ад Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Рэспублікі Беларусь, бо з 16 фестывальных вечароў 15 занятыя паказамі нашых спектакляў —"Травіята", "Севільскі цырульнік", "Кармэн" і канцэртамі сімфанічнага аркестра тэатра з удзелам музыкантаў-інструменталістаў з многіх краін.

Фестываль у Манаўсе стартаваў 5 красавіка сімфанічным канцэртам, дзе сам Ельдэн з нашым аркестрам выканаў "Поры года" А.Вівальдзі, а ў наступны вечар паказвалася наша першая "Травіята. У спектаклі "Кармэн" побач з нашымі салістамі Маратам Грыгорчыкам, Аркадзем Саўчанкам і Вікторыяй Курбацкай выступіла ў загалоўнай партыі Сесілія Дыяс са славутага тэатра "Калон" у Буэнас-Айрэсе. Нязменныя аншлагі забяспечваюць не толькі жыхары Манаўса (дарэчы, іх колькасць амаль такая ж, як у Мінску — больш за паўтара мільёны чалавек), але і людзі, што спецыяльна прылятаюць самалётамі з розных гарадоў Бразіліі. Кульмінацыйным пунктам фестывалю стаў паказ "Травіяты" 11 красавіка. На спектаклі з Наталляй Кастэнка, Эдуардам Пелагейчанкам і Аркадзем Саўчанкам у галоўных партыях і нямецкім дырыжорам Урсам Шнайдэрам прысутнічаў прэзідэнт краіны Фернанда Энрыке Кардоса. Ён прыляцеў з вялікай світай са сталіцы — горада Бразілія, пераадолеўшы адлегласць у 2000 кіламетраў. Прыўзнятаму настрою артыстаў і аўдыторыі спрыяла выкананне дзяржаўных гімнаў Бразіліі і Рэспублікі Беларусь. Пасля спектакля, прынятага з асаблівым энтузіязмам, прэзідэнт Кардоса сказаў, што лічыць за гонар прысутнічаць на ім, і падзякаваў беларускім артыстам за велізарны ўнёсак у адраджэнне высокай культуры ў Манаўсе. "Адзін з бразільскіх сноў стаў рэчаіснасцю", — зазначыў прэзідэнт.

Фестываль працягнецца да 20 красавіка і завершыцца гала-канцэртам з удзелам нашых зорак.

**Алена САЛАМАХА**

*На здымку: Оперны тэатр у Манаўсе.*

# З ВЫШЫНІ БЕЛАРУСЬ КАЗАЧНА ПРЫГОЖАЯ...

***З народным мастаком СССР, першым "касманаўтам" жывапісу Андрэем САКАЛОВЫМ наш карэспандэнт сустрэўся за кубачкам кавы ў Арсена Ваніцкага. Менавіта тут, у Беларускім таварыстве дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі, працуе выстава "Касмічнае і зямное братэрства". Як мы ўжо паведамлялі, у экспазіцыі прадстаўлены творы А.Сакалова, Георгія Паплаўскага і Івана Міско, а таксама касманаўтаў Аляксея Лявонава і Уладзіміра Джанібекава.***

**— Андрэй Канстанцінавіч, калі Вы як мастак упершыню "ўварваліся" ў Сусвет?**

— Роўна сорак гадоў таму, калі ў СССР быў запушчаны першы штучны спадарожнік Зямлі. Да гэтага я скончыў Маскоўскі архітэктурны інстытут і вельмі захапляўся "архітэктурнай фантастыкай", маляваў "гарады будучыні" і да т.п. І сваю першую выставу на гэтую тэму я зрабіў у Доме журналістаў яшчэ ў траўні 53-га, адначасова друкуючы свае творы ў часопісах "Огонёк", "Советский Союз" і інш.

**— І тут раптам — спадарожнік?**

— Так, на мяне гэтая падзея зрабіла тады, мабыць, большае ўражанне, чым пазнейшы палёт Юрыя Гагарына. Карацей, "касмічнай" тэмай я пачаў займацца вельмі сур'ёзна. Тое, што мне вельмі падабалася, было і самым кан'юнктурным на той час, безумоўна, у лепшым сэнсе гэтага слова. Праўда, даходзіла і да смешнага. Многае з таго, што я хацеў апублікаваць, цэнзары "не прапускалі". І тады я вырашыў пазначаць у куточку: маўляў, я ўсё гэта прыдумаў, нічога сакрэтнага не ведаю, у чым і распісваюся...

**— Хто з "айцоў" касманаўтыкі быў Вам вядомы?**

— Я добра ведаў вялікіх навукоўцаў-канструктараў Чаламея і Глушко. Скажам, усё тое, што "лятала" ў Каралёва, "лятала" на рухавіках Глушко. Дарэчы, яму належыць жартоўнае выслоўе: "З маімі рухавікамі і плот паляціць". Потым я пачаў ездзіць на Байканур, сустракацца з іншымі навукоўцамі і касманаўтамі, хаця да 1986 года за мяжу не выязджаў...

**— Хто яны — Вашыя першыя сябры-касманаўты?**

— Герман Цітоў і Аляксей Лявонаў. З Лявонавым як мастаком супрацоўнічаю пачынаючы з 1965 года, а ў 67-м — быў выдадзены наш першы сумесны альбом.

**— На Вашую думку, Лявонаў у мастацтве — самародак?**

— Гэта не дакладна. У свой час, не быўшы нават лётчыкам, ён паступіў у Рыжскую Акадэмію мастацтваў. Праўда, потым любоў да авіяцыі перамагла, і Аляксей пайшоў у авіяцыйную вучэльню.

**— А Джанібекаў?**

— Валодзя Джанібекаў, магчыма, менш прафесійны, але ў сваім жывапісе ён больш, так бы мовіць, філосаф. Вельмі цікавы і разумны чалавек. Як і Лявонаў, ён з'яўляецца сябрам Саюза мастакоў Расіі.

**— Я ведаю, што вось ужо шмат гадоў Вы моцна звязаныя з Беларуссю. Як гэта адбылося?**

— Упершыню ў Мінск я трапіў вясной 53-га. Ехалі з сябрамі ў Прыбалтыку праз Беларусь. Памятаю, спыніліся ў гатэлі "Беларусь": усё навокал было яшчэ ў руінах і новабудоўлях. Потым, ужо на пачатку 70-х, я пастаянна прыязджаў сюды для адпачынку. Жонка мая — беларуска, нарадзілася тут. У яе тут шмат сваякоў. Нават знакаміты дзед Талаш даводзіцца ёй далёкім родзічам. У 74-м, перад запускам "Саюза-Апалона", я пазнаёміўся з Жорам Паплаўскім. З тае пары сябруем... А дзесяць гадоў таму пабудаваў пад Вілейкай лецішча...



**— Такім чынам, Вас ужо можна лічыць напалову беларусам?**

— Безумоўна! Люблю Беларусь за душэўную шчодрасць, сардэчнасць і адкрытасць людзей, за хараство яе прыроды, за спакой і цішыню...

**— Тэма Космасу ў мастацтве — вечная?**

— Перакананы, што так. Бо чалавецтва павінна пастаянна імкнуцца да ўдасканалення і развівацца. Калі яно спыніцца, дык загіне. Бо, пагадзіцеся, няма нічога больш дзёрзкага, чым імкненне да Зорак! Яшчэ старажытныя казалі: "Per aspera ad astra!" Таму я лічу, што асваенне Сусвету, нягледзячы на велізарныя цяжкасці і ахвяры, будзе для чалавека заўсёды на першым плане. І мастацтва не можа застацца ў баку...

**— Як Вы працуеце над карцінай?**

— Па-рознаму. Для мяне касманаўтыка — тэма бязмежна цікавая. І я не магу сказаць, што мне дае большае задавальненне: сам працэс працы над палатном альбо пошук, "прыдумванне" будучай кампазіцыі. Для мяне ўсе гэтыя касмічныя аўтаматы-апараты — нібыта жывыя істоты. А самы любімы з іх — разумнік і прыгажун Месяцаход.

**— На выставе я звярнуў асаблівую ўвагу на тры Вашыя творы: "На Байкануры", "Касмічная раніца" і "Касмічная раніца над Беларуссю"...**

— Першыя дзве карціны ўжо былі ў космасе на борце арбітальнай станцыі "Салют". І гэтая першая ў свеце выстава такога кшталту вярнулася на Зямлю з дапамогай касманаўтаў Кавалёнка, Клімука, Іванчанкі і Гермашэўскага. А "Касмічную раніцу над Беларуссю" я пісаў паводле "карэкціровак" з космасу Толі Беразавога. Я абраў час на золку, калі насупраць сонечнага святла пачынаюць рэфлексаваць ўсе гэтыя надзвычай прыгожыя карункі беларускіх азёр, рэк, палёў, лясоў... Бо Беларусь з вышыні казачна прыгожая...

**Барыс КРЭПАК**

*На здымку: А.Сакалоў. "Касмічная раніца".*

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**

*"Культура" віншуе нашага сталага чытача, вядомага ў свеце графіка і жывапісца Георгія ПАПЛАЎСКАГА з наданнем яму высокага звання "Народны мастак Рэспублікі Беларусь".*



***Не прапусціце***

# ГЭТА ТОЛЬКІ КВЕТАЧКІ !

Штогод Беларускі харэаграфічны каледж дадае ў афішу Нацыянальнага тэатра балета дзівосны вечар — справаздачны канцэрт выпускнікоў. Звычайна гэты канцэрт уваходзіў у праграму фестывалю "Я люблю балет". Сёлета фестывалю няма (гл. "Культура" № 10), але канцэрт адбудзецца. 20 красавіка на самай вялікай сцэне свой галоўны экзамен — перад "сапраўднымі" дарослымі гледачамі — трымаюць тыя, хто пакуль толькі марыць аб славе балетных зорак.

Як заўсёды, выпускнікі і навучэнцы старэйшых курсаў пакажуць тое, чым наш каледж вызначаецца ў першую чаргу, а менавіта — класічную школу танца. У праграме — трэці, найбольш прыгожы акт з "Лебядзінага возера" і ўрывак з "Дон-Кіхота". Як стала ўжо звычаем у астатнія гады, сярод выпускнікоў — лаўрэаты міжнародных конкурсаў. Летась у Варне, на адным з найбольш прэстыжных балетных спаборніцтваў Аста Базявічутэ і Ірына Цымбал атрымалі сярэбраныя ўзнагароды. На канцэрце з імі будуць танцаваць Аляксей Авечкін, малады саліст Нацыянальнага тэатра балета, які дзеля гэтага не паехаў з трупай на гастролі ў Галандыю. І былы выпускнік нашага ж каледжа Андрэй Іваноў, які спецыяльна прыехаў з Санкт-Пецярбурга, таксама лаўрэат конкурсу ў Варне.

Вядома ж, дастойных выхаванцаў больш, чым двое — гледачы ў гэтым напэўна ж пераканаюцца. І можна было б чакаць добрага папаўнення ў балетныя трупы. Аднак, напрыклад, летась такое чаканне спраўдзілася не ў поўнай меры — наш выпускнік Ігар Колб уліўся ў трупу праслаўленай Марыінкі. Таму — не прапусціце магчымасці ўбачыць на сцэне заўтрашніх зорак!

**Ігар КЛОКАЎ**

# ГЛЫТОК СВЕЖАГА ПАВЕТРА



***14 красавіка ў галерэі "Мастацтва" Беларускага Саюза мастакоў у святочнай абстаноўцы адкрылася выстава жывапісу народнага мастака Беларусі, прафесара Гаўрылы Вашчанкі. Гэтае імя шырока вядомае не толькі на Беларусі. Больш чым у 40 музеях і мастацкіх галерэях свету захоўваюцца яго творы.***

Як асоба і мастак Вашчанка набіраў моц імгненна, але і па-сялянску грунтоўна. Галоўная тэма яго творчасці — зямля і на ёй чалавек — прыйшла да яго рана і назаўсёды. Тэма Радзімы, тэма Палесся — прыгожая і трагічная, як працяглая беларуская песня, у якой і смутак, і любоў, і шырыня, і сіла.

У гэтым арыгінальным майстры першаснае значэнне мае тое, што можна назваць самабытнасцю маральных адносін да выяўленага. Не ўсвядоміўшы гэтага, не так проста ўвайсці ў свет вобразаў Вашчанкі, у свет яго вячэрніх водараў і таямнічых белых начэй, зімовых гульняў і маўклівых бярозавых гаёў, дзядоўскіх настальгічных ветракоў і цёплых вясновых навальніц.

Я ведаю Гаўрылу Харытонавіча амаль 30 гадоў, і ў яго творчасці заўсёды прываблівалі мяне чысціня і сумленнасць душы, усхваляваная асабістая інтанацыя, прамая альбо ўскосная аўтапартрэтнасць.

Як адзначыў у сваім выступленні міністр культуры Аляксандр Сасноўскі, успомніўшы даўнюю карціну мастака "Крылы", "уся творчасць Вашчанкі нясецца на гэтых бусліных крылах, прымушаючы людзей думаць і глыбока асэнсоўваць жыццё".

На вернісажы з удзячнымі словамі прызнання выдатнаму майстру і педагогу за талент, высокае грамадскае пачуццё і чалавечнасць таксама выступілі народныя мастакі Леанід Шчамялёў і Васіль Шаранговіч, прэзідэнт Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва Фелікс Янушкевіч, старшыня Саюза мастакоў Генадзь Буралкін, мастак Павел Семчанка і інш.

У адказным слове Гаўрыла Харытонавіч сказаў, што калі ён сваім жывапісам змог даць гледачам "глыток свежага паветра", ён вельмі рады.

**Б.К.**

*На здымку: Г.Вашчанка. "Пейзаж з чоўнам".*

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# МУЗЫ НЯСВІЖА

У траўні Нясвіж зноў сустракае прыхільнікаў камернай музыкі. Фестываль "Музы Нясвіжа" ўжо ў другі раз будзе праходзіць у славутым сваёй гісторыяй горадзе і, хутчэй за ўсё, стане традыцыйным. Арганізатары фестывалю — Міністэрства культуры, Мінскі аблвыканкам, Нясвіжскі райвыканкам, непасрэдны ўдзел у фестывалі прымае Дзяржаўны канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь. Мерапрыемствы "Музаў Нясвіжа" будуць праходзіць з 2 па 4 траўня. З гэтай нагоды 10 красавіка адбылася прэс-канферэнцыя, падчас якой мастацкі кіраўнік фестывалю народны артыст Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Міхаіл Фінберг пазнаёміў прысутных з праграмай фестывалю. А праграма надзвычай цікавая і разнастайная: 2 траўня ў Нясвіжскім касцёле прагучаць творы кампазітараў XVIII стагоддзя ў выкананні Мінскага абласнога камернага хору "Sonorus", вечарам у раённым Цэнтры культуры і адпачынку адбудзецца ўрачыстае адкрыццё фестывалю, дзе ўвазе гледачоў будзе прапанаваны ўрывак са спектакля "Барбара Радзівіл" у пастаноўцы тэатра "Вольная сцэна", таксама выступіць паэт Алесь Разанаў, у выкананні Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі прагучыць музыка Мацея Радзівіла і Напалеона Орды. 3 траўня ў Нясвіжскім гісторыка-краязнаўчым музеі будзе праходзіць навуковая канферэнцыя "Музы Нясвіжа", адбудзецца творчая сустрэча з маладымі кампазітарамі Беларусі. 4 траўня ў Нясвіжскім парку адбудзецца канцэрт камерных калектываў Мінскай вобласці. У гэты ж дзень выступіць з канцэртам фартэпіяннай музыкі заслужаны артыст Беларусі Ігар Алоўнікаў, у праграме — творы Напалеона Орды і Фрыдэрыка Шапэна. Вечарам удзельнікаў і гасцей фестывалю чакае ўрачыстае яго закрыццё. Будзе гучаць віртуозная камерная музыка — творы Моцарта, Расіні, Бізэ, Паскулі, Абеліёвіча. Напрыканцы святочнай праграмы — фінальны паланез у выкананні харэаграфічных калектываў Нясвіжскага цэнтра культуры і адпачынку.

Пасля падрабязнага азнаямлення з праграмай фестывалю перад прысутнымі на прэс-канферэнцыі выступілі вядомы кампазітар Дзмітрый Смольскі, намеснік міністра культуры Уладзімір Рылатка, заслужаны артыст Беларусі Уладзімір Сарока і іншыя. Уладзімір Рылатка ў сваім выступленні адзначыў, што ідэя правядзення такіх фестываляў належыць нашаму слаўнаму маэстра — Міхаілу Фінбергу, які ўжо сёння думае пра тое, як арганізаваць і правесці трэці фестываль. Такая незвычайная творчая энергія духоўнага бацькі і арганізатара "Музаў Нясвіжа" дае ўсе падставы меркаваць, што другі фестываль камернай музыкі пройдзе паспяхова.

**Наш кар.**

# ДРУГІ ДЗЕСЯТАК АЛЕГА МЕЛЬНІКАВА

***12 красавіка на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы адбыўся творчы вечар вядучага саліста оперы, лаўрэата міжнародных конкурсаў Алега Мельнікава. Гэты вечар — другі з цыкла "Творчыя вечары ў оперы" (аб першым гл. "Культура" № 8) і, таксама як і папярэдні, павінен быў дадаць разнастайнасці ў афішу Нацыянальнай оперы падчас гастроляў асноўнай трупы. Але ён сам па сабе стаўся падзеяй, і мінчукі яшчэ раз упэўніліся, што наш ушанаваны шматлікімі міжнароднымі ўзнагародамі бас варты гэтых узнагарод. Самаадданасць маладога па мерках оперы спевака ў гэты вечар сустрэлася з удзячнасцю слухачоў. "Брава" гучала ў зале спачатку ў "выкананні" калегаў-спевакоў — але хутка іх падтрымалі ўсе слухачы, ад дзяцей да сталых аматараў.***



Праграма складалася з традыцыйных двух аддзяленняў: рамансы — пад фартэпіяна, і арыі — у суправаджэнні аркестра. Але ж Мельнікаў не быў бы сам сабой, калі б не расквеціў звыклую форму вечара барвамі сваёй творчай няўрымслівасці. Напрыклад, адзін з рамансаў Чайкоўскага "Меркнет слабый свет свечи" Алег выканаў не так, як прызвычаіліся іншыя выканаўцы, а адпаведна тэмпавым указанням кампазітара. На заканчэнне другога аддзялення ён выбраў арыю Мефістофеля "са свістам" з оперы Арыга Бойта — і выканаў яе з сапраўдным разбойніцкім посвістам. Канчаткова Алег пакарыў залу выкананым на біс віртуозным ронда Фарлафа з "Руслана і Людмілы" Глінкі.

З творчай характарыстыкі: *"Алег Мельнікаў нарадзіўся ў 1961 годзе ў Мінску... У 1986 годзе паступіў у Адэскую кансерваторыю... З 1986 па 1993 год быў вядучым салістам Адэскай оперы. У 1993 годзе быў запрошаны ў оперную трупу Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі як вядучы майстар сцэны... Выконвае амаль усе вядучыя басовыя партыі тэатральнага рэпертуару..."* Далей у сухім афіцыйным стылі пералічана 10(!) буйных міжнародных конкурсаў, лаўрэтам якіх (часцей за ўсё лаўрэатам першай прэміі) станавіўся Мельнікаў з 1988 па 1996 год. Вядома ж, пры нагодзе я не прамінуў магчымасці пагутарыць з артыстам такога цікавага лёсу!

**— Алег, якім чынам Вы апынуліся ў Адэсе?**

— Амаль выпадкова: неяк мяне пачула Марына Гулегіна, салістка нашай оперы, і параіла паступіць вучыцца да прафесара Іванова ў Адэсу — яна сама стажыравалася ў яго. Адэская кансерваторыя наогул славіцца выдатнай вакальнай школай, і я сардэчна ўдзячны свайму настаўніку. Прафесар Іваноў меў рэдкую асаблівасць прыслухацца да голасу і "выцягваць" найлепшыя прыродныя дадзеныя вучняў.

**— Якія ў Вас засталіся ўражанні ад працы ў Адэскай оперы?**

— Там вельмі добрыя галасы — але ўвогуле ў тэатры атмасфера не надта добрая, ёсць налёт правінцыялізму. Ні галоўны дырыжор, ні рэжысёр не нясуць сваіх ідэяў і не падхопліваюць нічыіх ініцыятыў. Але я ўдзячны Адэскай оперы за магчымасць працаваць адначасова з навучаннем. Мяркую, гэта быў рэдкі выпадак — мая праца залічвалася ў якасці выканання вучэбных праграм. Дарэчы, у той самы час я пачаў удзельнічаць у конкурсах.

**— Што датычыцца конкурсаў, то ўражвае колькасць Вашых перамог.**

— Конкурсы для мяне, па-першае, магчымасць кантактавання з калегамі, магчымасць знаёмства з дасягненнямі іншых школ. А з другога боку, гэта каласальнае выпрабаванне — псіхалагічнае, нават фізічнае. Напрыклад, конкурс CIEM у Швейцарыі, дзе я быў у 1991 годзе (адзін з найбольш вядомых у свеце, які праводзіцца ці не з 1928 года), налічвае пяць тураў і ўсе — адборачныя, і ўсе — пад аркестр і амаль без рэпетыцый. Бывае, што добры спявак такога напружання не вытрымлівае, заціскаецца. Мне, мабыць, дапамагае і спартыўная загартоўка — я займаўся ў маладосці барацьбой.

**— Напэўна, Вы атрымлівалі запрашэнні на працу з-за мяжы? Чаму не спакусіліся?**

— Добра там, дзе нас няма. Я пабачыў свет, у мяне нават быў паўгадавы сусветны тур, у мяне ёсць імпрэсарыю, ёсць поспехі. Але я люблю Беларусь, Мінск і хачу жыць і працаваць тут. Адзінае, што мяне можа падштурхнуць да ад'езду — гэта немагчымасць працаваць у нармальных умовах. Напрыклад, цяпер я жыву разам з роднымі ў прыватным доме, "зручнасці" як кажуць, на двары. Няма нават магчымасці пасля спектакля, канцэрта прывесці сябе ў парадак. Я жыву ў пакойчыку, дзе месца толькі для ложка і пісьмовага стала. Ведаю, што міністр культуры робіць усё магчымае, каб мне дапамагчы, але пакуль не вельмі атрымліваецца. А між іншым нават перыферыйныя тэатры, скажам, у Расіі, могуць прапанаваць мне адразу вялікую шматпакаёвую кватэру, калі я пагаджуся ў іх спяваць.

**— Ці ёсць у Вас хобі?**

— Нельга назваць гэта хобі, але захапляюся гульнёй у більярд. Ёсць і добры сапернік — Саша Мурзіч, сын майго першага настаўніка, наш музыкант.

**— Такім чынам, спартыўны дух захаваўся? Можа, трэба чакаць працягу конкурснага марафона?**

— Пайсці на другі дзесятак? Не выключаю, хаця да большасці конкурсаў я ўжо не падыходжу па ўзросце. Для мяне кожнае спатканне са слухачамі — амаль конкурснае выпрабаванне, я хвалююся, як школьнік. Я заўсёды рэпецірую цалкам праграму, і столькі разоў, колькі патрэбна, часам нават мой канцэртмайстар мяне прытрымлівае: "Ведаеш, да якой мяжы заяц бяжыць у лес? Да сярэдзіны, бо потым ён ужо бяжыць з лесу". Але я лічу, што нельга сабе сказаць, як Барыс Гадуноў: "Достиг я высшей власти" ці славы. Калі спявак так сабе кажа, з ім кончана. Няма межаў дасканаласці, але кожны раз, калі выходзіш да слухача, ты абавязаны яго пераканаць, што тое, што ты выконваеш, толькі так і павінна выконвацца. Гэта ў нашай справе — галоўнае, артыст павінен быць пераканаўчым. Без гэтага, мабыць, і немагчыма высокае мастацтва, гэтаму я вучу і сваіх вучняў.

**Ігар КЛОКАЎ**

*На здымку: Алег Мельнікаў — Грэмін у оперы "Яўген Анегін".*

**Фота Васіля МАЙСЯЁНКА**

# САМЫЯ-САМЫЯ!

Беларусь мае свой каштоўны запас: не залаты, нават не дыяментны, а нашмат даражэйшы і невычарпальны — прыгажосць нашых дзяўчат...

Як "Культура" ўжо паведамляла, 12 красавіка прайшоў фінал конкурсу "Супермадэль Беларусі-97". Цяпер паведамляем яго вынікі.

Відовішча было захаплялььнае, падрыхтаванае на высокім узроўні, што нават было нечакана для Беларусі.

Самымі прыгожымі сярод подыумных мадэлей былі прызнаны дзве дзяўчыны. Першая — гэта міс "Дзірол—97", міс "Няміга—97", міс "Полі" Марына Мартыненка, якая аказалася і самай элегантнай, за што фірма Андарак паабяцала, калі супермадэль за гэты год возьме шлюб, фірма падорыць ёй шыкоўную вясельную сукенку. Так што мужчыны — спяшайцеся! Другой супермадэллю Беларусі стала — "Каралева Гродна-96" Яна Станчык.

Сярод маленькіх мадэлей самай-самай была абрана "Супермадэль Магілёў-97" Дар'я Юшкевіч. Таму, што яна меней ростам за сваіх вялікіх суперніц, ёй падарылі прыземісты і вельмі шыкоўны аўтамабіль "Опель" спартыўнага ўзору.

Міс "Настрой" узялася вызначаць фірма "Падалянка", матывуючы тым, што яна выпускае "вілачныя пагрузчыкі, якія падымаюць усё, нават наш настрой". На думку прадстаўнікоў вытворцаў пагрузчыкаў, гэтае званне больш за ўсё падыходзіць Ірыне Садоўскай. Праўда, яе настрой падчас уручэння прызоў разгледзець не ўдалося — ён быў схаваны за вялікімі букетамі кветак.

Карэспандэнту газеты "Культура" імпанавала вельмі жвавая і абаяльная трынаццацігадовая дзяўчынка — маленькая мадэль Кацярына Няхай. Выбар газеты "Культура" падзялілі і калегі з газеты "Экспрэс-кантакт", узнагародзіўшы яе сваім прызом і паабяцаўшы змясціць на старонках свайго выдання разгорнутае інтэрв'ю з ёю.

Усе ўдзельніцы конкурсу не былі пакінутыя без увагі. Яны атрымалі падарункі ад партнёраў конкурсу: фірмы "Сцімарал", "Кодак", фірмы "Мілавіца".

Як і абяцаў арганізатар, завадатар, натхняльнік конкурсу Саша Варламаў, — новыя зоркі ў гэты дзень на беларускім небасхіле заззялі. Доўгага, яркага ім святла!

**М.С.**

# ПЕРАД "БЕЛАЙ АМФАРАЙ-97"

Вясна — час абуджэння і росквіту. Менавіта таму "Белая амфара", фестываль прафесійных мадэльераў, адбудзецца ў красавіку, якраз у перадапошні тыдзень месяца з 22-га па 26-ае.

Другі раз Віцебск сустрэне маладых мастакоў адзення і ўжо вядомых мэтраў моды.

Гэтая імпрэза прысвечана вялікаму віцябляніну Марку Шагалу (сёлета спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння). А адбудзецца яна пры дапамозе Віцебскага тэхналагічнага інстытута лёгкай прамысловасці і шматлікіх фундатараў.

Свае работы ўдзельнікі прадстаўляюць у адной-дзвюх з шасці намінацый. Кола выбару вялікае: гэта і эксклюзіў (непрамысловае мадэліраванне), прамысловае мадэліраванне, мадэліраванне для мужчын, для дзяцей, абутак рознага прызначэння.

Усе ўдзельнікі пройдуць праз 4 туры конкурснага адбору. Але самае цікавае здарыцца ў фінале — 26 красавіка. Пасля грандыёзнага гала-прадстаўлення госці фестывалю ўведаюць імёны лепшых з лепшых. Конкурс будзе ацэньваць міжнароднае журы, у склад якога ўвойдуць вядомыя ў краіне і Еўропе мастацтвазнаўцы і мастакі-мадэльеры.

Беларускі Цэнтр моды таксама актыўна рыхтуецца да ўдзелу ў віцебскім свяце. У гэтыя дні ў яго майстэрнях ствараюцца калекцыі, якія будуць дэманстравацца на подыуме "Белай амфары". Стварэнне моднага адзення — вялікая таямніца, таму мастакі-мадэльеры не вельмі словаахвотлівыя — каб не сурочыць. Але бачна, што яны знаходзяцца пад уплывам сучасных напрамкаў моды.

Мода нібы пераглядае шлях стагоддзя. Гэта і настальгія па мадэрне і мадэрнізм 70-х, заняпад і рэвалюцыйнасць 80-х. Але ўся незвычайнасць становішча яшчэ ў тым, што мы жывем напрыканцы тысячагоддзя. Мода зачаравана новымі тэхналогіямі (з'явіліся тэхна-тканіны з неабмежаванымі магчымасцямі выкарыстання), узніклі новыя рытмы і музыка (электронная, касмічная, музыка з гукамі прыроды, музыка для медытацыі і псіхатэрапіі і г.д.), новыя фарбы.

Канец тысячагоддзя — гэта вяртанне да прыроды: гармонія ранішніх тумаиоў і замглёнасць вечара. І, пэўна, галоўнае ва ўсім гэтым вяртанне да прыгажосці чалавечага цела, да яго першабытнай распранутасці. Чалавецтва наноў пераасэнсоўвае Біблію — погляд у будучыню праз прызму адвечных каштоўнасцяў. Пэўна таму на подыумах свету з'явіліся дзеці, з'явілася сямейная мода.

Вынікам назапашанага вопыту і ведаў стануць калекцыі, якія пакажуць на конкурсе мадэльеры Беларускага Цэнтра моды.

І ўжо адчуваецца, што фестываль "Белая амфара-97" будзе святам няўрымслівай маладосці, смелага дызайну і незвычайнага ўспрымання свету.

**Наташа ЛОЙКА**

**Расія**

7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.15 Добрай раніцы!
8.05 "Клубнічка".
8.35 Бясконцае падарожжа.
9.10—10.15 "Санта-Барбара".
14.10 Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя.
14.50 На парозе стагоддзя.
15.20 Ваш партнёр.
15.25 Тавары — поштай.
15.30 "Клубнічка".
16.15 Там-там навіны.
16.25 Лукамор'е.
16.50 Паглядзі на сябе.
17.00 "Цёмная" для С. Бяляева.
17.15 Садружнасць. Супольнасць. Саюз.
17.45 Расіяне.
18.05 "Санта-Барбара".
19.35 Добры вечар.
20.20 С. Чыаурэлі і В. Кікабідзе ў фільме "Мелодыі Вярыйскага квартала".
22.35 Футбол. Кубак кубкаў. "Фіарэнціна" (Італія) — "Барселона" (Іспанія).
0.25—1.05 Па вашых пісьмах.

**Санкт-Пецярбург**

15.00 "Гісторыя кахання".
15.55, 18.55, 21.55 Інфарм ТБ.
16.10 "Здабыванне свабоды". 1-я серыя.
17.00 "Каша-малаша", "Тры колы, фаліянт і..."
17.30 Тэлемагазін.
18.40 Вялікі фестываль.
19.15 Спорт.
19.20 "Гісторыя кахання".
20.10 Кіно "па-за законам".
20.50 Тэлеслужба бяспекі.
21.10 "Здабыванне свабоды". 1-я серыя.
22.05 Падзея.
22.20 Спартыўны агляд.
22.30—23.20 Закуліссе. Д. Вішнёва.

**НТБ**

5.00 Сёння раніцай.
9.15 Ранак.
9.30 Доктар Куін, жанчына-ўрач".
10.30, 17.30 "Вуліца Сезам".
11.00, 13.00, 15.00 Сёння ўдзень.
12.00 Адкрыты свет.
13.20 "Часінка".
15.35 Дыстанцыя 60.
16.35 "Блакітнае дрэва". Маст. фільм.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.40 Герой дня.
19.05 "Белы палац". Маст. фільм (ЗША).
21.45 "Круты Уокер: правасуддзе па-тэхаску".
22.40 Часінка.
23.00 Сёння апоўначы.
23.20 "Часінка".
24.00 Кіно не для ўсіх. "Доўгая зіма".

**ТБ-6 Масква**

17.50 Серыял "Кувалда".
18.55, 20.00, 22.45 Шэсць навін.
19.05 Ток-шоу "Зрабі крок".
20.15 "Дынастыя II (Сям'я Колбі)".
21.10 Тыя Хто.
21.40 Серыял "Новыя мсціўцы": "Мёртвыя людзі небяспечныя".
22.35 Шоу Бені Хіла.
23.00 Дарожны патруль.
23.10, 0.20 Дыск-канал.
0.00 Знак якасці.

**8-ы канал**

18.00 Мультфільм "Д'ябальскія акрабаты".
18.30 Маст. фільм "Даранванне".
20.00 Праваслаўныя гутаркі. Перадвелікодны тыдзень.
20.15 Мульт-планета.
20.30 Серыял "Горац".
21.30 Музычны канвеер.
22.00 Фільм "Карла Лізані "Кляйнхоф-атэль".

## Пятніца, 25 красавіка

**Беларускае тэлебачанне**

7.30 Ранішні кактэйль.
7.45 "Музычная абойма".
7.50 Эканамікст.
8.00 Навіны.
8.10 Прагноз надвор'я.
8.20 Музычны салон з Элеанорай Язерскай. "Успамін аб "Славянскім базары-96".
9.00 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 9 клас. Яўгенія Янішчыц. "...Ты пакліч мяне" ("Зорная пазма").
9.30 Бархатны сезон.
10.00 Навіны кінематографа.
10.25 "Вечная памяць". Відэафільм.
11.25 "Гісторыі знакамітых уцёкаў". 8-я серыя.
12.20 Зорная ростань. Тэлеконкурс маладых артыстаў эстрады.
13.00—13.10 Навіны.
15.00 Навіны.
15.15 Відэакурс французскай мовы.
15.45 "Сапраўдныя сябры". Мультфільм.
15.55 "Пераход". Перадача для падлеткаў.
16.25 "Кола часу". Тэленарыс, прысвечаны 155-годдзю заснавання Брэсцкай крэпасці.
16.50 Эканамікст.
17.00 "Сталіца". Праблемы гарадскога гандлю і бытавога абслугоўвання. Прамая лінія.
17.55 "Музычная абойма".
18.00 Навіны (з сурдаперакладам).
18.20 "Гісторыі знакамітых уцёкаў". 8-я серыя.
19.15 Тэма дня.
19.35 М. Стральцоў. "Сон душы". Монаспектакль артыста Алега Радкевіча.
19.50 "Зямлі маёй паданні". Інсцэніроўка паводле беларускага фальклору.
20.00 "У джазе толькі дзяўчаты". Забаўляльная праграма.
20.25 Музычны антракт.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 Маст. фільм Серджыа Карбучы "Суперпаліцэйскі".
23.40 Навіны.
23.50 Акалада.

**ГРТ**

11.00, 14.00, 17.00, 23.40 Навіны.
11.15 "Русь спрадвечная". 2-я серыя.
12.25 "Як адзін мужык двух генералаў пракарміў". Мультфільм.
12.45 Джэнтльмен-шоу.
13.15 Парыжскія тайны Эльдара Разанава. Клаудзіа Кардынале.
13.55, 20.40, 1.15 Праграма перадач.
14.20 "Легенды вострава скарбаў".
14.45 "Казка пра цара Салтана".
15.40 Музычнае падарожжа.
16.10 ...Да шаснаццаці і старэй.
17.20 "Дзяўчына па імені Лёс".
18.05 Надвор'е.
18.10 Чалавек і закон.
18.45 Поле цудаў.
19.45 Спакойнай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.50 Маст. фільм "Следства вядуць Знатакі". "Пайшоў і не вярнуўся".
22.55 Погляд.
23.50 "Найвялікшая гісторыя на Зямлі". 2-я частка.
1.05 Прэс-экспрэс.

**Расія**

7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.15 Добрай раніцы!
8.05 "Клубнічка".
8.35 "Аншлаг" прадстаўляе.
9.10 "Санта-Барбара".
10.15—10.45 Садружнасць. Супольнасць. Саюз.
14.10 Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя.
14.50 Залатая карта Расіі. Пераяслаўль-Залескі.
15.20 Паліха, 14.
15.25 Тавары — поштай.
15.30 "Клубнічка".
16.15 Там-там навіны.
16.25 Лукамор'е.
16.45 Паглядзі на сябе.
17.00 Нічога, акрамя...
17.15 Парламенцкі веснік.
17.45 Расіяне.
18.05 "Санта-Барбара".
19.35 Добры вечар.
20.20 "Ныне праславіся сын чалавечы". Маст. фільм.
22.35 Ціхі дом. Праграма С. Шолахава.
23.15 "Начны экспрэс" Міхаіла Баярскага.
23.55—1.30 "Наёмны забойца". Маст. фільм (ЗША).

**Санкт-Пецярбург**

11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55 Інфарм ТБ.
12.10 "Гісторыя кахання". Серыял.
13.00 Тэрмін адказу — сёння.
13.35 Парады садаводам.
14.10 "Наўздагад". Ігар Скляр.
14.45 "Здабыванне свабоды". 2-я серыя.
15.40, 20.50 Тэлеслужба бяспекі.
16.05 "Яго вялікасць рэжысёр". Да юбілею С. Гаудасінскага.
16.45 Зебра.
17.15 Слова — дэпутатам.
17.30 Тэлемагазін.
18.40 Вялікі фестываль.
19.15 Спорт.
19.25 "Гісторыя кахання".
20.15 "Чорны кот". Мастацка-публіцыстычная праграма.
21.05 "Здабыванне свабоды". 2-я серыя.
22.05 Падзея.
22.20 Спартыўны агляд.
22.30 Як быць каханымі.
23.05—0.10 "Фрэйд". 4-я серыя.

**НТБ**

5.00 Сёння раніцай.
9.15 Ранічка.
9.30 "Доктар Куін, жанчына-ўрач".
10.30 "Вуліца Сезам".
11.00, 13.00, 15.00 Сёння ўдзень.
12.00 Адкрыты свет.
13.20 "Часінка".
15.35 Дыстанцыя 60.
16.35 Маст. фільм "Блакітнае дрэва".
17.30 Футбольны клуб.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.40 Герой дня.
19.05 Маст. фільм "Справа была ў Пянькове".
21.45 "Круты Уокер: правасуддзе па-тэхаску".
22.40 Часінка.
23.00 Сёння апоўначы.
23.20 "Часінка".
23.45 "Чарнобыль: боль на ўсё жыццё".
0.10 Маст. фільм Кена Расела "Злачынства па страсці" (ЗША).

**ТБ-6 Масква**

6.00, 8.00, 13.50, 18.40, 20.50, 22.05 Шэсць навін.
6.10, 23.20, 2.10 Дыск-канал.
6.40, 13.20 "Вецер у вербах".
7.10, 22.20 Дарожны патруль.
7.20 Рэцэпты ад "Цэптэр".
7.30, 13.05, 90х60х90.
7.45, 10.15 Аптэка.
8.10 Прыватны выпадак.
8.30 Ток-шоу "Маё кіно" з Віктарам Мярэжкам.
9.25 Серыял "Дынастыя II (Сям'я Колбі)".
10.25, 12.30 "Дзякуй за пакупку".
11.00 Маст. фільм "Зборнік камедый Ч. Чапліна і 4".
18.10 Вы — відавочца.
18.55 Маст. фільм "Прыступіць да ліквідацыі".
21.35 Клуб "12 капеек".
23.20 Знак якасці.
23.45 Джэсіка Ланж у фільме "Фрэнсіс".

**8-ы канал**

18.00 Мультфільм "Д'ябальскія акрабаты".
18.30 Маст. фільм "Вокаваўка".
20.00 Праваслаўныя размовы. Перадвелікодны тыдзень.
20.15 Мульт-планета.
20.30 Спорт-action.
21.00 Віктар (пра нетрадыцыйныя метады лячэння).
22.00 Рычард Гір у маст. фільме "Унутранае расследаванне".

## Субота, 26 красавіка

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Навіны.
8.15 Здароўе. Стварэнне Акадэміі медыцынскіх навук Рэспублікі Беларусь.
8.45 "Лёс мой і надзея". Сацыяльная рэабілітацыя інвалідаў.
9.15 Рэгіён. Перадача з Гродна.
9.45 Люстэрка. Праграма для жанчын.
10.05 "Музычная абойма". Вынікі тыдня.
10.20 "Атамная энергія — бяда ці выратаванне?" Тэленарыс.
10.45 Шматгалоссе. Чарнобыльскія праблемы памежных краін.
11.20 В. -А. Моцарт "Рэквіем". Выканаўцы — салісты Венскай оперы.
12.30 Беларусь пасля Чарнобыля. Прымае ўдзел міністр па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь І. А. Кенік.
13.25 Тэлеспорт.
14.10 "Куды ідзем?.." Тэлеспектакль паводле кнігі Васіля Якавенкі.
15.00 Навіны.
15.20 "Рызыка-версія". Тэлегульня.
15.50 Зорная ростань. Тэлеконкурс маладых артыстаў эстрады.
16.25 Беларускі дом. "Спадчына".
17.00 А.Маёрава ў маст. фільме "Тая, якой шанцуе".
18.20 Галерэя. Дырэктар Рэспубліканскага дзіцячага анкалагічнага цэнтра Вольга Алейнікава. Аўтарская праграма Т.Ягоравай.
19.00 "Ад сэрца да сэрца". Дабрачынны канцэрт дзяцей Беларусі, Расіі і Украіны.
20.40 Калыханка.
21.00 Навіны.
21.45 Тэленавігатар.
22.05 Л.Касаткіна ў маст. фільме "Маці Марыя".
23.40 "Табе пяём". Дак. фільм.
23.55—1.55 Святочнае Набажэнства на Уваскрэсенне Хрыстова. Трансляцыя з Мінскага кафедральнага Свята-Духава сабора.

**ГРТ**

6.45 Аляксандр Міхайлаў у фільме "Зачараваны вандроўнік".
8.40 Лато-Мільён.
8.45 Хатняя бібліятэка.
9.00, 14.00, 17.00 Навіны.
9.10 Слова пастыра. Мітрапаліт Кірыл.
9.30 Не зявай!
10.00 Ранішняя пошта.
10.40 Смак.
11.00 "Запрашэнне да музыкі".
11.45 М.Міхалкоў у фільме "Радыеактыўнае завяшчанне".
12.40 Ток-шоу "Паехалі!"
13.20 Відавочнае—неверагоднае.
13.55 Праграма перадач.
14.20 "Казка пры рыбака і рыбку", "Малыш і Карлсан".
15.10 Амерыка з М. Таратутам.
15.40 У свеце жывёл.
16.15 Леанід Якубовіч у тэлегульні "Кола гісторыі".
17.25 Перадвелікодная седміца ля Труны Гасподняй. Прамое ўключэнне Іерусаліма.
17.45. Надвор'е.
17.50 "Залатая серыя". "А досвіткі тут ціхія..." 1-я серыя.
19.45 Спакойнай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.50 "А досвіткі тут ціхія..." 2-я серыя.
22.20 Вялікдзень Хрыстовы. Трансляцыя богаслужэння з Багаўлянскага кафедральнага сабора.

**Расія**

7.00 ранішні экспрэс.
7.55 Медыцынскі веснік.
8.05 "Мемарына". Тэлегульня.
8.30 Клуб "Адрэналін".
8.45 Добрай раніцы, краіна!
9.30 У свеце жывёл.
10.00 Весткі ў адзінаццаць.
10.15 Хачу ў артысты.
10.55 Рамансіяда-97.
11.05 Лепшыя гульні НБА.
12.00 Новае "Пятае кола".
12.30 Паэт у Расіі — больш, чым паэт.
13.00 Весткі пра...
13.25 "Расія ў вайне. Кроў на снезе". Фільм 5-ы.
14.15 Караоке па-руску.
14.45 Двайны партрэт.
15.15 Бясконцае падарожжа.
15.45 Легенды Вялікага.
16.40 Мужчына і жанчына.
17.20 Тэлескоп.
18.00 Момант ісціны.
19.00 Весткі.
19.35 Сам сабе рэжысёр.
20.10 Баскетбол. Чэмпіянат Расіі. Фінал.
21.45 Старая кватэра. Год 1952.
22.40 Канцэрт духоўнай музыкі.
23.15—2.00 Велікоднае Набажэнства ў Храме труны Гасподняй. Трансляцыя з Іерусаліма.

**Санкт-Пецярбург**

9.05 "Гонар маю". Ваенны агляд.
9.35 "Дзяржава крыжа". Тэлефільм.
10.05 "Інспектар Гэджэт". Мультсерыял (Францыя).
10.30 Чарнобыль. Хроніка аварыі.
11.20 "Наўздагад". Народная артыстка Расіі Зінаіда Шарко.
11.55, 13.55, 15.55, 18.55 Інфарм ТБ.
12.10 Залаты фонд. Тэлетэатр Глеба Селяніна.
14.10 Яшчэ адна Расія: "Духоўны подзвіг", "Кругазварот".
14.40 Тэатральная правінцыя?
15.10 Гістарычныя расследаванні.
16.10 Спартыўны агляд.
16.30 Гульня "Лато-бінга".
17.30 Тэлемагазін.
18.40 Вялікі фестываль.
19.25 "Кахаць". Маст. фільм (Расія).
20.35 "У імя ўваскрэсення". Тэлефільм.
20.45 Мультфільм для дарослых.
20.55 Свецкая хроніка.
21.10 Блеф-клуб.
21.45 "Парад парадаў". "На-на".
22.25 Экспрэс-кіно.
22.45—24.00 Велікоднае Набажэнства. Трансляцыя са Свята-Троіцкага сабора Аляксандра-Неўскай лаўры.

**НТБ**

7.00 Сёння раніцай.
9.00 "Дыназаўрык па імені Дзінк".
9.30 Тэлегульня "Зразумей мяне".
10.00 Свет прыгод і фантастыкі. Маст. фільм "Легенда пра згублены горад".
10.45 Ад "Вінта".
11.00, 15.00 Сёння ўдзень.
12.00 Хакей. Кубак Стэнлі.
14.30 "Панарама" з Усеваладам Аўчыннікавым.
16.00 Рускі альбом.
16.30 Мультсерыял "Чалавек-павук".
17.00 Час "Ч" з Вольгай Кучкінай.
17.30 Дог-шоу. Я і мой сабака.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.30 Герой дня без гальштука.
19.00 Сцівен Сігал і Келі Лебрук у фільме "Смерці насуперак (Ніко-2" (ЗША).
20.45 "Лялькі".
21.45 Надоечы-69.
22.30 "Руская духоўная музыка". Канцэрт у Смольным саборы Санкт-Пецярбурга".
23.00 "Сёння апоўначы". Спецыяльны выпуск.
23.05 Вілем Дэфо і Барбара Хершы ў фільме "Апошняя спакуса Хрыста" (ЗША).

**ТБ-6 Масква**

6.00, 7.00, 18.05 Шэсць навін.
6.10 Музыка кіно: Барыс Грабеншчыкоў.
6.30 Клуб "12 капеек".
7.10 Дарожны патруль.
7.25 Дзіцячы сеанс. "Мар'я-Мастачка"
8.45 "Цэптэр-прыз".
8.55 Мультфільмы "Як вожык і медзведзяня мянялі неба", "Як кошачка і сабачка мылі падлогу".
9.25 "Ералаш".
10.00 Праграма для дзяцей "Гэта мы не праходзілі!"
10.30 Серыял "Дзікая прырода Аўстраліі".
11.25 Адкрыцці тыдня.
12.00 Кіназала "Кінескоп".
13.05 Дыск-канал для дзяцей.
13.55 Ток-шоу "Я сама": "Як я стала прагажуняй".
14.55 Ток-шоу "Прафесія": "Кандытар".
15.50 Клуб адзінокіх сэрцаў.
16.20 Серыял "Згублены свет".
17.15 Парыж, Парыж.
17.45 Кінападрабязна.
18.15, 1.40 Дыск-канал.
18.50 Скандалы тыдня.
19.20 Шоу Івана Дзямідава "Абоз".
20.05 Маст. фільм "Верныя сябры".
22.00 Фільм "Вялікдзень Хрыстовы".
23.35 Віншаванне Свяцейшага Патрыярха Маскоўскага і Усея Русі Алексія Другога са святам Уваскрэшання Хрыстова.
22.40 Прамая трансляцыя Хрэснага ходу і святочнай Велікоднай службы з Троіца-Сергіевай лаўры (Сергіеў Пасад), Багаяўленскага кафедральнага сабора (г. Масква).
0.05 Маст. фільм "Раб мары".

**8-ы канал**

15.00 Хрысціянская праграма.
15.30 Маст. фільм "Паляўнічы".
17.00 "Лепшыя гульні НБА".
18.00 Царкоўны каляндар.
18.30 Мультфільм "Смех і гора ля бела мора.
19.30 На-лі-вай!
20.00 Праваслаўныя гутаркі. Перадвелікодны тыдзень.
20.15 Маст. фільм "Шчаслівая даліна".
21.45 Паліскоп.
22.00 Hi-Fi music.
22.30 Майкл Парэ ў дэтэктыве "Трайная змова".

## Нядзеля, 27 красавіка

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 "Кактэйль па нядзелях".
9.00 Востраў натхнення. "Белая каралева".
9.30 Мульціклуб.
10.00 Вяршыня свету. Падвядзенне вынікаў тэлевіктарыны за красавік.
10.35 "Усё нармальна, мама!"
11.05 Арсенал. Праграма для вайскоўцаў.
11.40 Слова на Уваскрэсенне Хрыстова Мітрапаліта Філарэта.
11.55 "Гаючых песень чысціня..." Духоўная музыка.
12.20 Вяскоўцы. "Аб чым звоняць званы..."
12.50 "Наконадні будучыні".
13.30 Гісторыя кахання. Сям'я свяшчэнніка айца Сергія.
13.55 Існасць. Святочныя сустрэчы.
14.25 "Азарэнне". Дак. фільм.
15.00 Навіны.
15.15 Бон тон. Тэлечасопіс моды.
15.45 Музычны салон з Элеанорай Язерскай. "Веснавыя гісторыі".
16.30 "Запрашаем на вячоркі". Вялікдзень у вёсцы Жытомля Гродзенскага раёна.
17.05 "Оскар". Тэлегульня.
17.35 Р. Плят і А. Мягкоў у маст. фільме "Пасляслоўе".
19.05 Абібок.
19.40 Калыханка.
20.00 Рэзананс.
20.50 Спартыўны тэлекур'ер.
21.10 Прагноз надвор'я.
21.25 Ток-шоу "Карамболь" з удзелам Веранікі Долінай.
22.00 Ж.П. Бельмандо ў маст. фільме "Улюбенец лёсу" (Францыя—ФРГ).
0.05 "Бархатны сезон".
0.35—1.35 Відзьма-нявідзьма.

**ГРТ**

7.00 Барыс Андрэеў і Мікалай Кручкоў у фільме "Максімка".
8.15 Мультфільмы "Гусі-лебедзі", "Прыгоды коскі і кропкі".
8.55 Тыраж "Спортлато".
9.00, 14.00, 22.10 Навіны.
9.10 "Бесталковыя нататкі" Дзм. Крылова.
9.30 Пакуль усе дома.
10.10 Ранішняя зорка.
11.00 Армейскі магазін.
11.25 Грай, гармонік любы!
11.55 Сельская гадзіна.
12.25 "Атлантыда. Пошук працягваецца".
13.25 Смехапанарама.
14.15 Серыял "Сімфанічныя тайны". Заключная серыя.
14.45 Клуб падарожнікаў.
15.30 Вяртанне Траццякоўкі.
16.00 "Ружовая пантэра", "Прыгоды Вудзі і яго сяброў".
16.45 Адзін на адзін. Вядучы — А. Любімаў.
17.15 Футбольны агляд.
17.45 Надвор'е.
17.50 КВЗ-97.
20.00 Час.
20.35 Кінаафіша.
20.45 Камедыя Яўгенія Маргунова "Калі казакі плачуць".
21.20, 0.05 Праграма перадач.
21.25 Песня-97.
22.25 Алена Коранева і Мікалай Карачанцаў у гістарычнай меладраме "Яраслаўна, каралева Францыі".

**Расія**

7.00 Ранішні эспрэс.
7.55 Гандлёвы дом.
8.10 "Солці". 4-я серыя.
8.35 "Ва ўсіх на вуснах". Праграма Наталлі Дар'ялавай.
8.50 Добрай раніцы, краіна!
9.30 Прысяга.
10.00 Весткі ў адзінаццаць.
10.15 Рускае лато.
11.00 Кніжная лаўка.
11.25 Чалавек на Зямлі.
11.50 Сад культуры.
12.20 Наш сад.
12.50 Віншаванне Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II са светлым Хрыстовым Уваскрэсеннем.
13.00 Весткі.
13.25 "Расія ў вайне. Кроў на снезе". Фільм 6-ы.
14.20 "Кранугы", "Аладзін".
15.15 Рэпартаж ні аб чым.
15.30 Доўгань-шоу.
16.00 Увесь свет. Праграма Л. Млечына.
16.40 Вечар з Аляксандрам Гурновым. "Гарачая тэма".
17.05 "Адзін супраць усіх". Інтэрактыўная гульня.
17.25 L-клуб.
17.55 "Сітуацыя". Інтэрактыўнае кіно.
18.10 "Аншлаг" прадстаўляе.
18.45 РТР у гасцях у тэлегледачоў.
19.00 Люстэрка.
20.00 "Гарадок". Забаўляльная праграма.
20.35 Футбол без межаў.
21.10 Андрэй Смірноў у праграме "Абзац".
22.05 У Ксюшы.
22.35 Баскетбол. Чэмпіянат Расіі.
0.05 Праграма "А".
1.00 Рэк-тайм.
1.10—1.20 Гараскоп і відэамедытацыя.

**Санкт-Пецярбург**

8.30 Гаючае слова.
9.05 Тата, мама і я — спартыўная сям'я.
9.35 Авертайм.
10.05 "Інспектар Гэджэт". Мультсерыял (Францыя).
10.30 "Ібера — краіна бліскучай вады". Дак. серыял.
11.20 Раман з героем.
11.55, 13.55, 15.55, 18.55 Зваротны адлік.
12.10 "Прадаўжэнне роду". Маст. фільм (Расія).
13.35 Над вежамі Чырвонага форта.
14.10 Яшчэ адна Расія: "Дойліды", "350 вёрст ад Санкт-Пецярбурга".
15.10 Пад знакам Дзягілева.
16.10 Спартыўная праграма.
16.40 "Паласатая музыка", "Казка за казкай".
17.30 Тэлемагазін.
18.35 Скарбы Пецярбурга. "Вясна свяшчэнная".
19.25 "Маці Іісуса". Маст. фільм (Расія).
20.55 Ва ўсіх на вачах.
21.10 Ноу смокінг.
21.55 Міжнародны агляд.
22.35—23.15 Майстры балета: Кацярына Максімава, Уладзімір Васільеў.

**НТБ**

7.00 Сёння раніцай.
9.00 Вуснамі дзіцяці.
9.30 Тэлегульня "Зразумей мяне".
10.00 Свет прыгод і фантастыкі. Маст. фільм "Легенда пра згублены горад".
10.45 Ад "Вінта".
11.00, 15.00 Сёння ўдзень.
12.00 Кніжны магазін.
12.30 "Маскі-шоу": выбранае.
13.00 "Караліна ў Нью-Йорку" (ЗША). 4-я серыя.
13.30 "Алё, Фіма!"
13.45 "Няўклюды" Сямёна Альтава.
14.00 "Час "Ч" з Вольгай Кучкінай".
14.30 "Свая гульня".
16.00 Кінаклуб "пасля "Нікі".
17.15 Нядзельная праграма "Рускія цвікі".
17.45 Велікодны святочны зварот да тэлегледачоў НТБ свяцейшага Патрыярха Маскоўскага і Усея Русі Алексія II.
18.00 Сёння ўвечары.
18.30 "ХХ стагоддзе. Рускія тайны". "1960 год: збіць любой цаной".
19.00 Серыял па выхадных. "Байкі са склепа".
20.00 Вынікі.
21.10 Хакей. Чэмпіянат свету. Расія—Славакія.
23.10 Трэцяе вока.
23.50 "Плейбой-шоу".

**ТБ-6 Масква**

6.00, 7.00, 16.50 Шэсць навін.
6.10 Музыка кіно. Песні з дзіцячых фільмаў.
6.35 Скандалы тыдня.
7.10 Мультсерыял "Галавакружныя прыгоды Біла і Тэда".
8.00 Светлае Уваскрэсенне Хрыстова. Вялікдзень.
8.50 Велікодная служба ў Троіца-Сергіевай лаўры, Багаяўленскім саборы (Масква), Кіева-Пячэрскай лаўры (Кіеў), Мінскім кафедральным саборы (Мінск), Толгцкім жаночым манастыры (Яраслаўская вобласць).
10.40 Рэпартаж аб святкаванні Вялікдня на Святой Зямлі (Іерусалім).
10.50 Віншаванне Свяцейшага Патрыярха Маскоўскага і Усея Русі Алексія Другога.
11.00 Шоу ежы "Пальчыкі абліжаш".
11.35 Гумарыстычная праграма "Назло рэкордам!"
12.00 "Дзякуй за пакупку!"
12.30 "Акулы пяра". Аляксандр Зацэпін.
13.30 Ток-шоу "Зрабі крок".
14.20 Спорт тыдня.
14.55 Мультфільм "Вялікдзень у сямейным крузе".
15.20 "Ералаш".
15.55 Серыял "Згублены свет".
17.00 Ток-шоу "Маё кіно" з А.Алейнікавым.
17.45 Тэлеканкрэтна.
18.00 Дарожны патруль.
17.20 Аналітычная праграма "Аглядальнік".
19.05 Сатырычны кіначасопіс "Фіціль".
19.25 Камедыя Л. Гайдая "Каўказская палонніца".
20.55 Шоу Бені Хіла.
21.10 Д. Крысці, А. Бейтс у фільме "Пасрэднік".
23.20 Тэледыскатэка "Партыйная зона".
0.40 Дыск-канал "Захоўваць вечна".

**8-ы канал**

15.00 Хрысціянская праграма.
15.30 Серыял "Кадфаэль".
18.00 КВЗ-люкс.
18.30 Залаты фонд. "Казкі народаў свету".
19.15 Праваслаўныя гутаркі. Перадвелікодны тыдзень.
19.30 Шон Конеры ў маст. фільме "Выкуп".
21.00 Экспертыза.
21.30 Навіны "К-відэа".
22.00 Кіно Францыі. Маст. фільм "Пяты мушкецёр".

НЕ ЧЫТАЦЬ... А ГЛЯДЗЕЦЬ!

SCRIPTA MANENT

# РЭЙТЫНГ

Цяпер усюды рэйтынгі: у музыцы, кіно, на тэлебачанні — дзе заўгодна... А чым літаратура горшая? — неяк падумаў я і адразу вырашыў: а нічым не горшая. З чаго лагічна вынікала, што бягучы літаратурны працэс трэба неадкладна абцяжарыць рэйтынгам.

Каб не выдумляць сабе лішняга клопату, я не мудрагеліў, а хуценька збэрсаў элементарную "прапазіцыю":

1. экспертная рада (10 — 12 экспертаў);

2. кожны эксперт называе тры лепшыя публікацыі 1996 года ў:

а) паэзіі,

б) прозе,

в) перакладчыцкай справе,

г) літаратурнай крытыцы, літаратуразнаўстве, культуралогіі.

А далей і таго прасцей — бярэш у сына калькулятар і падлічваеш супадзенні меркаванняў, а ўсё несупалае адсейваеш, як шалупіне ад зерня.

Вырашыў — крокам руш!

У эксперты я запрасіў людзей паважных: сярод іх нават два дактары навук ды чатыры кандыдаты, таксама навук, і ўзростам не падшыванцаў, бо які з падшыванца эксперт — літаратурных крытыкаў, літаратуразнаўцаў, культуролагаў ды філосафаў. Праўда, на вялікі жаль, некаторыя з іх таксама крэмзаюць паперу прозай ці вершамі (і ў сяго-таго нават няблага атрымліваецца), але тут ужо нічога не паробіш — на Беларусі, каб невядома як захацеў, а не знойдзецца дзесяць прафесійна абазнаных у літаратуры людзей, зусім пазбаўленых комплексу паэта ці празаіка. А гэта азначае (з прычыны згаданага комплексу), што ў нашых экспертаў могуць быць праблемы з аб'ектыўнасцю; зрэшты, чалавек паводле азначэння — суб'ектыўны, і гэтую яго загану ні з якога боку не абмінеш...

Не палічыце за пахвальбу, але яшчэ не займеўшы на рукі вердыкты экспертаў, я ўжо здагадаўся, што ніякі рэйтынг у мяне не атрымаецца. Што заўгодна атрымаецца, толькі не рэйтынг, бо, раптам даўмеюся я, прафесійны літаратурны крытык (літаратуразнаўца, культуролаг) — не рэйтынгавая фігура. Рэйтынг (як і ўсе іншыя акцыі падобнага кшталту) для прафесіянала — гэта толькі адна з магчымасцей выявіць ідэалогію ўласнай творчасці праз знакавыя фігуры літаратурнага працэсу. Адсюль і непазбежная тэндэнцыйнасць, але тэндэнцыйнасць не ў вульгарным сэнсе прасоўвання "сваіх" знакавых фігур наперад (хаця рэцыдывы прагматызму гэты сэнс таксама не выключаюць), а ў сэнсе замацавання той эстэтычнай ідэалагемы, на якую абапіраецца і якую разгортвае ў сваёй творчасці той ці іншы крытык. А паколькі кожны з запрошаных на рэйтынг крытыкаў ужо індывідуальна сфармаваны і мае перад сабой выразныя эстэтычныя арыенціры, то ён крочыць заўсёды ў свой бок.

Кожны будзе крочыць у свой бок, з сумам адзначыў я і падумаў, што электронны калькулятар у сына пазычаць, напэўна, не давядзецца...

Аднак давайце пазнаёмімся з тым, што мне нагаварылі эксперты пра лепшыя паэтычныя публікацыі 1996 года. (Яшчэ ўдакладню: названым мог быць як зборнік, так і нізка вершаў, надрукаваная ў газеце ці часопісе, і нават адзін асобны верш, калі ён выразніўся для эксперта ў паэтычную падзею прамінулага года.)

**Алесь Аркуш**

1. Славамір Адамовіч. "Каханне пад акупацыяй". Зборнік.

2. Андрэй Пяткевіч. Нізка вершаў. Часопіс "Калосьсе".

3. Людка Сільнова. Нізка вершаў. Часопіс "Крыніца".

**Юрась Барысевіч**

1. "Круглы год. Хоку беларускіх паэтаў". Зборнік.

2. Вершы ўдзельнікаў руху Бум-Бам-Літ на гарчычніках, таблетках, булках, фальзе, шоўку ды іншых нетрадыцыйных матэрыялах.

3. Славамір Адамовіч. "Каханне пад акупацыяй". Зборнік.

**Пётра Васючэнка**

1. Рыгор Барадулін. "Здубавецыя". Зборнік.

2. Людка Сільнова. Верш "Уздоўж індзейскай ракі". Газета "Наша ніва".

3. Віктар Жыбуль. Паэма "Рогі гор". Літаратурна-філасофскі сшытак "ЗНО" (газета "Культура").

**Галіна Каржанеўская**

1. Васіль Зуёнак. Нізка вершаў. Часопіс "Полымя".

2. Галіна Дубянецкая. Нізка вершаў. Часопіс "Крыніца".

3. Аксана Данільчык. Верш без назвы. Часопіс "Крыніца".

**Ганна Кісліцына**

1. Віктар Жыбуль. Паэма "Рогі гор". Літаратурна-філасофскі сшытак "ЗНО" (газета "Культура").

2. Славамір Адамовіч. "Каханне пад акупацыяй". Зборнік.

3. Галіна Дубянецкая. Нізка вершаў. Часопіс "Крыніца".

**Уладзімір Конан**

1. Алесь Разанаў. "Паляванне ў райскай даліне". Зборнік. (Зборнік быў надрукаваны ў 1995 годзе, але рэальна да чытача патрапіў на пачатку 1996 года.)

2. Людміла Рублеўская, Віктар Шніп. "Застаюся. Выкраданне Еўропы". Зборнік.

3. Уладзімір Някляеў. "Прошча". Зборнік.

**Людміла Корань**

1. Усевалад Гарачка. Нізка вершаў. Часопіс "Крыніца".

2. Зянон. Верш без назвы. Часопіс "Крыніца".

3. "Круглы год. Хоку беларускіх паэтаў". Зборнік.

**Ева Лявонава**

1. Янка Юхнавец. Нізка вершаў. Часопіс "Крыніца".

2. Антаніна Хатэнка. "Стынь слова". Газета "ЛіМ".

3. Анатоль Сыс. Верш "Страцім-лебедзь". Часопіс "Крыніца".

**Людміла Рублеўская**

1. Алесь Чобат. Нізка вершаў. Газета "ЛіМ".

2. Леанід Галубовіч. Нізкі вершаў. Часопіс "Крыніца", газета "ЛіМ".

3. Віктар Шніп. Нізка вершаў. Часопіс "Крыніца".

**Юры Станкевіч**

1. Мікола Купрэеў. Нізка вершаў. Газета "ЛіМ".

2. Уладзімір Някляеў. "Прошча". Зборнік.

3. Людміла Рублеўская. Нізка вершаў. Газета "ЛіМ".

**Міхась Тычына**

1. Уладзімір Някляеў. Нізка вершаў. Часопіс "Беларусь".

2. Рыгор Барадулін. "Дурноты". Газета "ЛіМ".

3. Міхась Баярын. Вершы. Часопіс "Крыніца", літаратурна-філасофскі сшытак "ЗНО" (газета "Культура").

Цяпер, калі вы ахапілі вокам вынікі, то, пэўна, адразу пагодзіцеся з маёй відушчай: ніякі рэйтынг з гэтага выбудаваць немагчыма. У лепшым выпадку некаторыя зборнікі і часопісныя публікацыі называліся двойчы — усё астатняе ўроссып, як гарох па падлозе. Праўда, тройчы прагучалі прозвішчы Славаміра Адамовіча і Уладзіміра Някляева, толькі ў нас не пра прозвішчы гаворка, а пра паэтычныя тэксты... (Зрэшты, "тройчы" для нашай справы мала чым адрозніваецца ад "двойчы".)

З чаго адразу і канстатуем — *рэйтынг не атрымаўся.*

Але не спяшайцеся са спачуваннямі, бо я ніяк не лічу, што мы з экспертамі (і з табой, паважаны чытач) прарабілі марную справу. Болей за тое, можа яно і добра, што мы не займелі, адносна задумы, пазітыўных вынікаў... Па-першае: у тых, хто не патрапіў на вышэйшыя прыступкі рэйтынгавай іерархіі, не будзе падставаў упікаць мяне, што я не тых людзей запрасіў у эксперты ці не так, як трэба на їх розум, наладзіў рэйтынгавую справу. А па-другое (што куды больш істотна за нечыя асабістыя крыўды) — эксперты сваімі адказамі акрэслілі *поле актуальных* паэтычных тэкстаў 1996 г.

Так, я наперад пагаджаюся з "крытыкамі": гэтым *полем* ахоплена далёка не ўсё лепшае, што вырасла летась на паэтычнай ніве, але многае вартае сюды ўсё ж такі патрапіла, ды і пустазелля тут мала. Вось чаму я без усялякіх ваганняў збіраюся працягваць наш "Рэйтынг". На чарзе — проза.

**P.S.** Дарэчы, пагадзіўшыся, што задуманы рэйтынг не атрымаўся, я раптам заўважыў рэйтынгавы вынік там, дзе зусім яго не чакаў, а менавіта, сярод згаданых экспертамі перыядычных выданняў. Тут безальтэрнатыўна лідзіруе часопіс "Крыніца" — названы 10 разоў. На другім месцы "ЛіМ" — 6 разоў.

**P.P.S.** Між іншым, калі нехта з чытачоў "Культуры" будзе мець жаданне і не палянуецца назваць тры, на яго думку, лепшыя публікацыі 1996 г. у паэзіі, прозе і г.д., то мы абавязкова надрукуем яго высновы. А калі не палянуецца шмат чытачоў, то можа тады ў нас і атрымаецца сапраўдны рэйтынг?




# БЕЛАРУСЫ ЗА БУГАМ, альбо "БРАЦКАЯ МАГІЛА" ПА-ПОЛЬСКУ

У Беластоку выдаецца выкшталцоны часопіс "Карткі". Шыкоўная папера, выдатная паліграфія, адмысловая мастацкая аздоба.

Да самага апошняга часу "Карткі" не выказвалі асаблівай цікавасці да Беларусі, але, мабыць, адночы нехта нагадаў польскім хлопцам, якія робяць гэты прыгожы часопіс, што этнаграфічная мяжа рассялення беларусаў ахоплівае Беласточчыну, дый увогуле, у розныя эпохі Беласток не аднойчы ўваходзіў у склад беларускай дзяржавы. Нагамінак пра этнаграфічную агульнасць, пэўна, быў успрыняты з належнай увагай, бо першы нумар часопіса "Карткі" за 1997 год прысвечаны Беларусі, дакладней, сучаснай беларускай літаратуры (хаця трохі месца знайшлося мастацтву ды музыцы).

Натуральна, усю сучасную беларускую літаратуру ў адзін нумар часопіса не ўпіхнеш (тым болей, што ён і не цалкам "нашым" прысвечаны). Трэба было выбіраць, і тое, як вырашана "праблема выбару", бадай, найбольш цікавае ў гэтай акцыі.

Адкрываюць нумар літаратуразнаўчыя артыкулы Пятра Васючэнкі, Сакрата Яновіча і Яна Максімюка. А межавымі (узростава і эстэтычна) "слупамі" ўласна літаратурнага дыскурсу выступаюць з аднаго боку Алесь Разанаў, з другога — Зміцер Вішнёў. У прамежку між імі мільгацяць Юры Гумянюк, Уладзімір Арлоў, Сяржук Мінскевіч, Ігар Бабкоў, Славамір Адамовіч, Таццяна Сапач, Андрэй Пяткевіч, Юрась Пацюпа, Адам Глобус, Анатоль Сыс, Сяргей Дубавец, Міра Лукша, Надзея Артымовіч, Уладзімір Сцяпан, Мірослаў Шайбак...

Можна колькі заўгодна спрачацца, ці ўсе прадстаўленыя ў часопісе аўтары з'яўляюцца знакавымі фігурамі сучаснага літаратурнага працэсу, толькі ў мяне няма сумнення, што многія з іх менавіта такімі і ёсць... Іншая рэч, што шмат якія іншыя знакавыя фігуры не патрапілі ў гэты склад, але, як казаў вялікі рускі філосаф Пруткоў, "нельзя объять необъятное".

Дарэчы, цікава было назіраць, як *патрапіўшыя* ў "Карткі" натхнёна і ўзрушана прапаноўвалі пагартаць часопіс кожнаму, хто апынаўся пад рукой, а *непатрапіўшыя* абыякава гарталі глянцавую паперу і, адышоўшы ўбок, мармыталі: "Брацкая магіла. Толькі па-польску". (Тлумачу для недасведчаных. У свой час "брацкімі магіламі" называліся паэтычныя зборнікі, куды запіхвалі вершы ўсіх, у каго не атрымлівалася выдаць уласную кніжку.)

Не стану спрачацца з "непатрапіўшымі"; можна сказаць і так — "брацкая магіла"... Але які помнік над ёй прыгожы!




# РАМАНЫ

*Раман напісаць — не поле перайсці.*

*Каб напісаць раман, трэба мець моцныя лёгкія, бо проза найперш патрабуе нязмушанага роўнага дыхання. Пісаць раман, гэта як дыхаць жыццём — не стамляючыся, з дня ў дзень.*

*Калі я даведваюся, што нехта ўлёгся ў раман, то адразу гэты нехта ўяўляецца мне падарожным на гасцінцы, якому не бачна канца.*

*Чаму ён пацягнуўся ў такую далеч? — думаю я. Але ніколі не пытаюся: чаму? Недарэчна пытацца пра наканаванне.*

*Раман — гэта нават не доля, раман — гэта лёс (вершы — доля).*

*Верш — падзея экзістэнцыйная, раман — анталагічная (хаця можна давесці і адваротнае), і толькі раман, напісаны паэтам, можа ўтоесніць гэтыя абедзве падзеі на прасторы аднаго тэксту, але можа, наадварот, перакрэсліць адну адной. Таму я з насцярожаным хваляваннем чакаю рамана Леаніда Дранько-Майсюка: утоесніць ці перакрэсліць?*

*Зрэшты, пра гэта наперад няма сэнсу гадаць. Дачакаемся — убачым. А пакуль я цікаўлюся ў Леаніда Дранько-Майсюка пра рэчы простыя,назыўныя:*

**— Спадар Леанід, з назвай рамана ўжо вырашана канчаткова?**

— Так.

**— Калі не сакрэт...**



— Не сакрэт. Раман мае назву "... ненавідзець Арфея".

**— Ненавідзець Арфея? Але за што? Хіба за тое, што не вытрымаў і азірнуўся на Эўрыдыку. Натуральна, неабачлівы рух, які назаўсёды пахаваў дзяўчыну ў сутарэннях Аіда. Толькі ці варты за гэта Арфей нянавісці? Хіба што шкадобы?**

— Ненавідзець Арфея — перш за ўсё ненавідзець сябе.

**— А сябе за што?**

— За што? Адказ у рамане.

**— Спадар Леанід, ваша апошняя "буйная" празаічная рэч была пра "Стомленасць Парыжам". (Зрэшты, празаічнай яна выяўлялася толькі ў форме, нутраны ж змест быў наскрозь паэтычным.) А "пра што" раман "... ненавідзець Арфея"?**

— Я дастаткова настамляўся Парыжам, аб чым тэндэнцыйна сведчыць ранейшая проза. Дык вось, мая новая проза пра стомленасць Менскам. Не Мінскам, а менавіта, Менскам...

**— Дзе вы плануеце надрукаваць раман?**

— Спадзяюся, што раман будзе надрукаваны на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

***Абзац з рамана "... ненавідзець Арфея".***

*"... так, ён памятаў гэта. Памятаў, бо да сустрэчы з Алунай не адчуваў розніцу паміж спакоем і хваляваннем. І толькі ў той вечар, калі прагучала саната Ліста, зразумеў, што мітусня пачуццяў мінулася і, паводле іншага запісу ў дзённіку, ён "здабыў патрэбнаехваляванне". Памятаў нават тое, што, перачытаўшы гэтае несамавітае словазлучэнне, убачыў у ім прагматычны акорд, аднак суцешыў сябе: прагматызм лёгка пертварыць у паэзію, калі побач тая жанчына, якая ратуе ад будзённага існавання..."*

# СЯРЭДЗІНА 90-Х ГАДОЎ

## Сітуацыя

Неяк я выказаў досыць рызыкоўную думку. Літаратурны працэс, — сказаў я, — рэч нашмат больш важная, чым ягоны вынік — уласна літаратурныя творы. Таму мяне хвалюе не столькі якасць літаратурных твораў, колькі інтэнсіўнасць літаратурнага працэсу.

— Дык навошта той працэс, — упікнулі мяне, — калі не будзе выбітных твораў?

— Выбітныя творы могуць быць, а могуць і не быць. Калі іх няма ў маёй літаратуры, то я набяру бярэмя з усіх іншых. Ад таго, што ў нас няма "Уліса" (Джойс), я не застаюся без "Уліса", ад таго, што ў нас няма "Іосіфа і яго братоў" (Томас Ман), я не застаюся без "Іосіфа і яго братоў", ад таго, што ў нас няма "Парфумы" (Патрык Зюскінд), я не застаюся без "Парфумы"... А вось калі ў нас не будзе інтэнсіўнага літаратурнага працэсу, то я застанучя без беларускай літаратуры, бо літаратура жыве і дыхае непасрэдна ў працэсе, а творы — толькі помнікі гэтаму працэсу.

Уласна, тую сваю рызыкоўную думку я згадаў адно дзеля таго, каб падмацаваць наступную: апошнім часам у нас, можа, і не было значных літаратурных твораў, але быў досыць цікавы і інтэнсіўны літаратурны працэс. Ствараліся творчыя суполкі, трансфармаваліся старыя і нараджаліся новыя літаратурныя выданні, пераацэньваліся (сацыяльна і эстэтычна) ранейшыя набыткі, на авансцэне з'яўляліся невядомыя (ці вядомыя толькі як статысты) героі і разыгрываліся такія спектаклі, якіх калісьці і ўявіць сабе было няможна... Але што найбольш істотна — адбываўся кардынальны перарух у самой структуры літаратурнага жыцця. Зладжанае па агульнай, "камандна-адміністратыўнай" (смешны выраз, але досыць дакладны) мадэлі, гэтае літаратурнае жыццё, як няведама якое па ліку люстэрка адлюстроўвала пастаўленую перад ім уладнай рукой ідэалагемную ляльку. Уласна, не толькі адлюстроўвала, яно само ў гэтым адлюстраванні пачыналася і завершвалася. Усё, што не адпавядала адлюстраванню, як бы не існавала; і толькі зрэдчас, у цьмяных кутках люстэрка, за павуціннем, здаралася, прамільгне нешта, чаго няма, чаго не павінна быць... і знікне, як здань, у гэтым "не павінна быць".

А потым лялька звалілася, люстэрка трэснула, пачаўся вэрхал, бязладдзе. І хаця зладжаная за камуністамі структура захавалася амаль цалкам ва ўсіх сваіх інстытуцыях — Саюз пісьменнікаў (і яго абласныя аддзяленні), часопісы, газеты, выдавецтвы, — але без ідэалагемнай ляльکі наперадзе гэтая структура служыць ужо толькі рамай для скразнякоў, а не люстэркам.

Праўда, калі б тады, на пачатку 90-х да ўлады прыйшлі нацыянальна заангажаваныя сілы, то гэтая, выштукаваная камуністамі структура магла б не з меншым поспехам паслужыць і "нацыяналістам", тым болей што літаратура, як мала што яшчэ ў краіне, была падрыхтаваная для адлюстравання нацыянальна-адраджэнскай ідэалагічнай лялькі.

Але нацыянальна заангажаваныя не прыйшлі да ўлады...

Зрэшты, я лішне ўхіліўся ў "камандна-адміністратыўны" бок, паколькі ў гэтыя гады самае цікавае адбывалася не там, у былым, а насупраць, дзе нараджалася тое, што "Наша Ніва" абвясціла новай культурнай сітуацыяй. Распачала гэтую "новую сітуацыю" суполка "Тутэйшыя", плён якой быў (як бачна цяпер) не столькі ў літаратурных практыках (некалькі гучных акцый, некалькі альманахаў "Літаратура" ды зборнік "Тутэйшыя"), колькі ў самім факце з'яўлення на Беларусі нефармальнай суполкі. І хаця цяпер, з адлегласці, бачна, што "Тутэйшыя" — гэта шмат у чым яшчэ звычайны канфлікт "бацькоў і дзяцей", але паколькі канфлікт прыпаў на момант сацыяльна-палітычнага катаклізму, то ён не мог не выразніць некаторыя рысы і самога моманту.

З'яўленне газеты "Наша Ніва", а затым Таварыства Вольных Літаратараў (з яго кніжачкамі "Ксэракс беларускі", серыяй паэтычных зборнікаў, часопісам "Калосьсе") сфармавала тэндэнцыю, якую падмацоўвалі розныя іншыя праекты, сярод іх не магу не згадаць часопіс "Унія", літаратурна-філасофскі сшытак "ЗНО" пры газеце "Культура", літаратурны рух Бум-Бам-Літ, "Эўрофорум", часопіс "Крыніца"... (Дарэчы, апошні якраз сведчыць пра магчымасці карэннай рэфармацыі калі не ўсёй былой структуры, то хаця б асобных яе элементаў...)

Спадзяюся, у мяне яшчэ атрымаецца паразважаць асобна пра кожную з гэтых падзей (як і пра многія іншыя), а гэтым разам мяне цікавіць вось што... Няма сумнення, што цяпер, у сярэдзіне 90-х, мы маем новую, кардынальна адрозную ад папярэдняй, літаратурную сітуацыю.

Асноўная яе адметнасць у тым, што побач са старой структурай, якая знаходзіцца на ўтрыманні дзяржавы і прадстаўлена як уласна Саюзам пісьменнікаў, так і шэрагам літаратурных выданняў, сфармавалася новая, структурна незалежная ні ад каго (акрамя ўласных фінансавых магчымасцяў). Іншая рэч, ці можам мы ўсё гэта новае, што з'явілася за апошнія гады, пазначыць як нейкую структуру. І справа тут нават не ў тым, што ўсе гэтыя суполкі, выданні, праекты не надта трывалыя, што яны то з'яўляюцца, то знікаюць — часам назаўсёды. Прынцып хуткага распаду і нечаканага абнаўлення ў тых самых ці іншых формах ёсць адным з базавых прынцыпаў новай літаратурнай сітуацыі. І таму пытанне зусім не пра трываласць, а пра іншае: ці мае ў сабе ўсё гэтае "новае" модус структурнасці, ці імкнецца яно да структурызацыі? Сучасныя праекты паўставалі якраз як апазіцыя не толькі асобным элементам камандна-адміністратыўнай структуры, а ўсяму цэламу, гэта значыць яны з'яўляліся і як апазіцыя ўласна структурнасці. І для таго, каб ім у нешта структуіравацца, трэба найперш пераадолець у саміх сабе гэтую апазіцыйнасць да структурнасці ўвогуле... Здаецца, мы напярэдадні падобнага этапу. Робяцца спроба за спробай стварыць агульную сетку распаўсюджвання незалежных выданняў, усё болей знаходзяць паміж сабой паразумення і агульных мэтаў ТВЛ, "Наша Ніва", "Эўрофорум"... Адным словам, патроху нешта адбываецца ў гэтым накірунку... і, можа быць, да таго моманту, калі старая структура канчаткова разбурыцца, мы ўжо будзем мець, хай сабе яшчэ нешта кволае, але ўжо структурна асэнсаванае і структурна зладжанае новае...

А пакуль яны (старая, што тая здань, і новая, што той прывід), забыўшыся на першапачатковы перыяд варажнечы, адносна мірна суіснуюць у адной літаратурнай прасторы, з аднолькавай трывогай узіраючыся ў цьмянае будучае. І, здаецца, ні там, ні там не бачна асаблівай радасці ў вачах.

# З ГІСТОРЫІ КНІГІ

### 1. На якой мове размаўлялі Адам і Ева

Як вядома, "Біблія" ("Кнігі") надыктаваная самім Богам. Паколькі "Біблія" напісаная на іўрыце, то з апошняга, як быццам, вынікае, што Бог ад пачатку гаварыў па-габрайску. Але хутчэй, гэта не зусім адлавядае сапраўднасці, бо потым Бог яшчэ шмат з кім размаўляў паасобку (прынамсі, сведчанняў таму ў святых кнігах даволі), і далёка не ўсе яго сумоўнікі былі габраямі, тым не менш яны разумелі словы Бога як свае ўласныя. З чаго атрымліваецца, што Бог быў (і, пэўна, застаецца) паліглотам. Зрэшты, і дзіўна, каб было інакш. Хаця не выключаецца, што ў звычайным фанетычным разуменні Бог увогуле не размаўляе, а тэлепатуе свае думкі, абмінаючы нашыя вушы, напрасткі ў галаву ці сэрца, альбо адразу туды і туды...

Куды больш складанае наступнае пытанне: на якой мове размаўлялі Адам і Ева? Праўда, для шмат каго тут няма ніякага пытання. Паколькі пра Адама і Еву апавядаецца ў Бібліі, а Біблія напісана на іўрыце, то бясспрэчна, што Адам і Ева таксама размаўлялі нейкай старажытна-габрайскай мовай.

Калі наследаваць гэтай логіцы і далей, то выходзіць, што Адам і Ева былі габраямі. А калі Адам з Евай былі габраямі, то і ўсе мы, іх нашчадкі, таксама габраі... Вось навіна дык навіна...

Зрэшты, людзі ніколі не мелі асаблівага даверу да логікі. Таму шмат навукоўцаў і проста не абыякавых да гэтай праблемы людзей у розныя гістарычныя эпохі спрабавалі высветліць, на якой мове *сапраўды* размаўлялі ў Эдэме? Усіх меркаванняў на гэты конт не перакажаш, згадаю адно некаторыя з іх. Бельгіец Гаранус лічыў, што Адам з Евай размаўлялі па-фламандску ("Узнікненне Антверпена", 1569 г.). А вось нехта Кэмпэ сцвярджаў, што Бог размаўляў па-шведску, Адам — па-дацку, а змяя спакушала Еву па-французску (апошняе вельмі праўдападобна, бо здавён вядома, што французская мова — мова спакусы). Венгр Іштван Хорват, прааналізаваўшы імёны, прыйшоў да высновы, што ў Эдэме карысталіся венгерскай мовай. Але найбольш мяне зацікавілі даследаванні немца Хасэ, які ў 1779 годзе ў Кёнігсбергу выдаў кнігу "Правы Прусіі на Прыбалтыку, на рай старажытных — першую калыску чалавецтва, з усеагульнай згоды абгрунтаваныя біблейскімі, грэцкімі і лацінскімі пісьменнікамі..." Натуральна, Хасэ перакананы, што адзінай дзяржаўнай мовай Эдэма была — нямецкая. Я з такой катэгарычнасцю спадара Хасэ пагадзіцца не магу. Калі "Прыбалтыка... рай старажытных — першая калыска чалавецтва", то ў Эдэме аніяк не маглі гаварыць па-нямецку, бо нямецкая мова не была ў Прыбалтыцы мовай карэннага насельніцтва.



Аспрэчыўшы філалагічны аргумент нямецкага навукоўцы, далей я хацеў бы не тое, што аспрэчыць, а толькі ўдакладніць, так бы мовіць, трохі падкарэктаваць і яго геаграфічны аргумент. Мяркую, што Эдэм знаходзіўся ўсё ж такі не ў самой Прыбалтыцы, бо інакш у Бібліі абавязкова згадалася б мора. Казаць пра Эдэм у Прыбалтыцы і абмінуць мора, якое з'яўляецца з ёй неадменным цэлым, — гэта немажліва. Таму я лічу, што Эдэм знаходзіўся не зусім у Прыбалтыцы, а недзе паблізу. А што найбліжэй да Прыбалтыкі? Відавочна і бясспрэчна — Беларусь! З чаго я і раблю адзінамагчымую выснову: Эдэм мясціўся недзе на тэрыторыі сучаснай Беларусі і Адам з Евай (што амаль напэўна) размаўлялі на нейкай прабеларускай мове.

Натуральна, пакуль гэта толькі гіпотэза. Але я не сумняваюся, што з цягам часу Беларуская Акадэмія навук, прапрацаваўшы самыя розныя археалагічныя, этнаграфічныя, тапаграфічныя і філалагічныя крыніцы, зробіць з гэтай гіпотэзы навукова абгрунтаваную і непахісную ў стагоддзях тэорыю.

Так будзе, бо так ёсць.

### 2. Літаратурная суполка ў Эдэме

Хто напісаў першую кнігу? Апошнім часам на гэтае пытанне перасталі шукаць пэўнага адказу. А дарэмна. Бо недарэчна лічыць першай кнігай папірусны скрутак, датаваны 3350 годам да Н.Х. (гэты скрутак знаходзіцца ў Парыжскай Нацыянальнай бібліятэцы).

Між іншым, далёка не заўсёды да вышэйзгаданай праблемы ставіліся з сучаснай абыякавасцю. У XVII — XVIII стагоддзях ёй было прысвечана безліч прац, з якіх бясспрэчна вынікала, што аўтарамі першых кніг былі Адам і Ева.

Праўда, уласна Біблія пра гэта ні слоўка не кажа, але ж мы не адмаўляем існавання камп'ютэраў ці зубных шчотак толькі на той падставе, што пра іх не згадваецца ў гэтай святой, усеабдымнай і вечнай кнізе.

За тое, што Адам быў надзелены вялікім літаратурным талентам, сведчыць яго праца па наданні найменняў прадстаўнікам флоры і фауны Эдэма. Кожны з пісьменнікаў ведае, як гэта складана ўвесці ў літаратурны ўжытак хаця б адно новае слова. Адзін з найгеніяльных празаікаў свету, беларус з паходжання Фёдар Дастаеўскі, вынайшаў толькі два новыя словы (першае — "стушеваться", а якое другое — я забыўся).

Зразумела, што ў Эдэме Адам з Евай кнігу не пісалі, там яны займаліся толькі вуснапаэтычнай ці, інакш, фальклорнай творчасцю.

Пісаць кнігі яны сталі пазней, калі Бог адлучыў іх ад гістарычнай бацькаўшчыны і змусіў пладзіцца ды размнажацца.

На вялікі жаль, арыгіналаў вербальнай творчасці першалюдзей не засталося. Тым не менш, пасля карпатлівага вывучэння ўсяго, што толькі падлягала вывучэнню, даследчыкі прыйшлі да высновы — Адам напісаў не менш за дванаццаць кніг. Дзве кнігі напісала і Ева. Пералічу адно некаторыя з кніг Адама: "Азбука", "Кніга Парадку", "Кніга пра сутнасць істотаў", дзве кнігі пра стварэнне свету, "Кніга Пакаяння". Непасрэдна да красамоўнага творства мела дачыненне кніга паэтычных твораў, якая, па сведчанні Нірэнбергуса, складалася з 94 псалмоў (ён сам, паводле яго словаў, адшукаў два псалмы Адама ў бібліятэцы Эскарыяла, праўда, потым яны кудысьці зніклі).

Кнігі, напісаныя Евай, называліся "Прароцтвы Евы", "Евангелля Евы".

І хаця, як ужо адзначалася, навукоўцы не мелі тэкстаў першакніг, але не былі б яны навукоўцамі, каб на падставе гэтай адсутнасці не стварылі цэлую літаратуразнаўчую навуку, у якой было напісана шэраг цудоўных прац. Не магу не згадаць хаця б адзін выдатны твор з бясконцага шэрагу выдатных — "Спроба ўводзінаў у гісторыю дапатопнай літаратуры", якую напісаў і ў 1727 годзе выдаў слынны навуковец Рэйман.

Пэўна, у звязку з кнігамі Адама і Евы вам найперш закарціць спытацца: а якім альфабэтам яны карысталіся?

Слушнае пытанне. Але адкажу на яго ўжо наступным разам.

(Працяг будзе.)

**Аўтар Трыбуны "Л" Валянцін АКУДОВІЧ**

# З ХРОНІКІ ЛІТАРАТУРНАГА ЖЫЦЦЯ-БЫЦЦЯ

◆ ◆ ◆

У народзе кажуць: два разы пераехаць, што адзін раз пагарэць. За апошнія гады рэдакцыя часопіса "Маладосць" столькі разоў пераязджала з месца на месца, што каб гэта была не рэдакцыя, а якая мануфактура, то ад яе ўжо адно галавешкі засталіся б... Але "Маладосць" не мануфактура, а рэдакцыя, гэта значыць месца, дзе ў шафы складваюцца рукапісы. А рукапісы, як вядома, не гараць.

Напрыканцы красавіка рэдакцыя часопіса "Маладосць" зноў пераехала — вярнулася на вуліцу Багдана Хмяльніцкага, 10-а. Для ўдзячных чытачоў і аўтараў удакладняю: трэба падняцца на другі паверх, адшукаць закратаванае акенца (здараецца, праз яго ганарары выдаюць) і па калідоры направа...

◆ ◆ ◆

Нядаўна злодзеі (злодзей?) залезлі ў рэдакцыю часопіса "Беларусь", а потым у рэдакцыю газеты "ЛіМ" (ці можа, наадварот?). Нічога асабліва вартага жалю не знікла, калі не лічыць аўтаручкі галоўнага рэдактара часопіса "Беларусь" Аляксандра Шабаліна. Цікава, навошта злодзею аўтаручка?

◆ ◆ ◆

У паэта Уладзіміра Някляева нарадзіўся ўнук. Шчыра віншую. А павіншаваўшы, пачынаю напружана думаць, як стасуюцца паміж сабой гэтыя два словы: "паэт" і "дзед"? Не надта, канешне, стасуюцца. І хаця законам як быццам не забараняецца дзеду пісаць вершы, але...

Зрэшты, у выпадку з Уладзімірам Някляевым асаблівай праблемы не бачу. Яшчэ калі ён не быў дзедам, у яго добра атрымлівалася пісаць прозу (аповесць "Вежа"). Цяпер, пэўна, будзе атрымлівацца яшчэ лепей...

◆ ◆ ◆

Галоўны рэдактар часопіса "Унія" Ірына Міхаліна Дубянецкая чатыры гады вучылася ў Лонданскім місіянерскім інстытуце на бакалаўра тэалогіі.

Нядаўна яна зноў з'ехала ў Лондан з рашучым намерам вярнуцца дахаты першым на Беларусі нацыянальна заангажаваным магістрам тэалогіі.

Абавязкова вяртайцеся магістрам, Ірына Міхаліна, а то перад суседзямі сорамна. На дзесяць мільёнаў народу ніводнага свайго магістра-тэолага.

◆ ◆ ◆

Набрацца хрысціянскай навукі вырашыў і публіцыст Юрась Залозка. Толькі за хрысціянскай навукай ён паехаў не як Ірына Міхаліна Дубянецкая ў Лондан, а ў Люблін. Вось ужо другі год хлопец вучыцца ў Люблінскім каталіцкім універсітэце на філосафа. Час пакажа, што ў Юрася пераможа: хрысціянін ці філосаф? Праўда, некаторыя сцвярджаюць, што гэтыя дзве справы можна рабіць па сумяшчальніцтве. Але я з такім меркаваннем не пагаджаюся. Калі ёсць Бог, то навошта самому думаць?

◆ ◆ ◆

Паэт Алесь Разанаў нарадзіўся ў вёсцы Сялец, што на Берасцейшчыне. А нядаўна па беларускім тэлебачанні сказалі, што адзін чалавек з вёскі Сялец набыў у прыватную ўласнасць самалёт.

У Амерыцы адно мільянеры маюць уласныя самалёты, а на Беларусі — звычайныя вяскоўцы. Відавочна, што дабрабыт нашага народа паляпшаецца з месяца ў месяц.

— Але пры чым тут паэт Алесь Разанаў? — пэўна запытаецеся вы.

Я вось таксама сяджу і думаю: "І пры чым тут Алесь Разанаў?"

# СІДАРАЎ-РАЗ, СІДАРАЎ-ДВА...

***Без удзелу Алеся Сідарава не нараджаецца ніводны спектакль тэатра, аднак мала хто з гледачоў ведае яго ў твар. Бо ён — тэатральны мастак. Аднак наяўнасць у тэатры неардынарнай асобы, якая прыдумляе, малюе, стварае, маленькія гледачы адчуваюць адразу як толькі пераступаюць парог лялечнага асабняка ў Віцебску. Заварожвае таямніча-чароўная Батлейка, зробленая па ўзоры народнага тэатра Магілёўскага павета; прываблiваюць з густам афармленыя вітрыны лялечнага музея; азадачвае хітра схаваная механіка анёла, што звоніць у маленькі званочак ля гардэроба тэатра. А лялькі, што выйшлі з-пад рук Майстра, прымушаюць плакаць і смяяцца маленькіх і дарослых. Аляксандр Сяргеевіч працуе ў лялечным тэатры больш за дваццаць гадоў. Шэсць з іх — у Віцебскай "Ляльцы". Пра такіх людзей кажуць: "хворы на тэатр". У Алеся Сідарава "хварэе" ўся сям'я. Ад самага пачатку творчага шляху побач з ім жонка — Ганна Аляксандраўна, таксама тэатральны мастак. А не так даўно ў бутафорскі цэх тэатра прыйшла старэйшая дачка Аляксандра Сяргеевіча — Аня. Прыйшла, каб разам з бацькам дарыць радасць маленькім віцяблянам.***

**— Многія дзеячы лялечных тэатраў любяць паўтараць, што лялькі — гэта любоў на ўсё жыццё. Ці памятаеце Вы той момант, калі закахаліся?**

— Не. Не было такога моманту. Ды і наогул, пра любоў неяк ужо занадта гучна сказана. Хутчэй за ўсё, гэта было мне наканавана. Як я ні імкнуўся абраць нейкі іншы шлях (ледзьве машыністам цягніка не стаў), аднак нікуды не падзеўся — лёс...

**— Тэатр — гэта ўстанова, дзе на адну ідэю працуе шмат людзей: рэжысёр, акцёры, аўтар і Вы — мастак. Ці не ўзнікае ў працэсе працы жаданне самавыразіцца, вызваліцца ад уплыву рэжысёра і К°?**

— Калі б такое жаданне ўзнікла, то, адпаведна, узнікла б і пытанне аб маёй прафесійнай непрыдатнасці. Стварэнне спектакля — гэта сістэма ўзаемаадносін паміж усімі ўдзельнікамі працэсу, а парушэнне сістэмы — хаос. Самавыяўляцца я магу і дома, а на працы я — чалавек, ад якога чакаюць прафесійнага выканання сваёй справы. І я задаволены, што ў нашым тэатры не пануе дыктатура рэжысёра, што ніколі мастацкі кіраўнік Віктар Клімчук не прыціскаў нас, ніколі не быў дыктатарам, бо дыктат — гэта праяўленне слабасці, я так лічу.

**— Ці былі выпадкі, што рэжысёр прыходзіў да Вас з адной задумай, а Вы прымушалі яго кардынальна яе змяніць?**

— Так, у Іванаве такое было, адна п'еса дрэнна скончылася: там я выпаў з "сістэмы". У Брэсце таксама здаралася. У Віцебскім тэатры такога выпадку не памятаю, аднак гэта не азначае, што ў мяне стаў мякчэйшы "хрыбет". Відаць, у нас з Клімчуком больш кропак душэўнага сутыкнення і даверу, чым было з іншымі рэжысёрамі.

**— Алесь Сідараў лічыцца стабільным мастаком. Калі ён узяўся за справу, то "правільнага" афармлення не будзе. Ці не азначае гэта, што знікла жаданне ставіць эксперыменты?**

— Мне не вельмі падабаецца азначэнне "стабільны". У маім разуменні стабільны — гэта нерухомы. Да таго ж я лічу, што кожны наш спектакль можна і нават трэба лічыць эксперыментам. Узгадайце хаця б "Чароўны пярсцёнак", афармлены Ганнай Сідаравай. Упершыню на сцэне "Лялькі" з'явіўся спектакль-імправізацыя. Больш за ўсіх тут рызыкаваў, натуральна, Клімчук — ён цалкам "абнавіў" свой імідж. Для акцёраў жа кожны новы спектакль — гэта адкрыццё новых сваіх магчымасцей. Канешне, часам бываюць і няўдачы, бо эксперымент заўсёды непрадказальны.

**— Ці адчуваеце патрэбу маляваць нешта не для тэатра?**

— Натуральна. Але патрэба гэта — эканамічная. Зарплата наша не дае магчымасці "расслабіцца", і даводзіцца згаджацца на любую "халтуру", аднак, канешне, без шкоды для працы. Праўда, у апошні час ніхто нічога не прапануе... А што тычыцца рэалізацыі мяне як мастака, задавальнення нейкіх маіх творчых патрэб, то на гэта проста нестае часу ды і энергіі. Шчыра кажучы, праца ўсё забірае.

**— Праца ў дзіцячым тэатры накладвае адбітак на Ваша мастацкае светаўспрыманне?**

— Пэўна, адбіваецца нейкім чынам. Нас усіх фарміруюць абставіны: праца, людзі, асяроддзе. Аднак праца ў дзіцячым тэатры, канешне, мае пэўныя асаблівасці. Для дзяцей усё трэба рабіць лепш, чым гэта робіцца ў тэатры "дарослым". І калі дарослага гледача можна чымсьці падманнуць, выдаць нядбайнасць за ўмоўнасць, насмяшыць непрыстойнасцю, то з дзецьмі гэта не атрымаецца.

**— Але ж Вы афармілі спектакль у драматычным тэатры. Тады да Вас правакацыйнае пытанне: ці не збіраецеся Вы туды перабрацца?**

— Але ж афарміў я там казку. Зноў жа, твор для дзяцей. А ўвогуле гэтае пытанне не столькі правакацыйнае, колькі далікатнае. Нічога не магу зрабіць, але мне наогул не цікавы драматычны тэатр, за выключэннем некаторых асоб у ім. Можа быць, гэта спецыфіка "дарослага" тэатра, але там вельмі мала людзей, здольных здзіўляцца і здзіўляць іншых. Гэта да таго, чаму я не змагу ўвесь час працаваць у драматычным тэатры. Сумна. А Антон Грышкевіч (рэжысёр казкі "Жураўлінае пяро") мяне "зачапіў". Для яго здзіўляць людзей — сэнс працы, ды і жыцця, відаць. Асабіста мне было цікава працаваць над "Жураўлiным пяром", праўда, не ўсё атрымалася так, як задумвалі. Потым я зноў працаваў з Грышкевічам над афармленнем спектакля "Баль падчас чумы", аднак, на жаль, тэатр не палічыў магчымым ажыццявіць гэтую пастаноўку. Вось і ўвесь мой вопыт працы ў драматычным тэатры. Але нягледзячы ні на што, я за гэты вопыт удзячны. Прынамсі, я стаў больш берагчы тое, што маю.



Спектакль "Хлопчык-зорка" О.Уайльда, лялькі і сцэнаграфія А.Сідарава.

**— Узгадваючы гарачыя спрэчкі лялечнікаў мінулага стагоддзя аб тым, якая ж з сістэм павінна стаць пануючай, хачу спытацца, якім лялькам аддае перавагу Алесь Сідараў?**

— Ну, гэта як пра дзяцей казаць: таго люблю, гэтага — не. У кожнай сістэмы лялек ёсць свае перавагі, свае недахопы. Тут справа ў іншым. Бывае, што звонку лялька-прыгажуня, лепш не трэба, а акцёр нічога з ёю толкам зрабіць не можа. А бывае наадварот. Раптам нягеглая лялька набывае душу і прымушае гледача смяяцца і плакаць, і мы забываемся, што гэта акцёр падараваў ёй жыццё. Мы верым ёй, мы любім яе.

**— У Вашым тэатры не так даўно з'явілася Батлейка. Калі глядзіш на Ваш твор, ствараецца ўражанне, што Вы — веруючы чалавек. Што для Вас Бог?**

— А што ж Вы тады скажаце пра мяне, калі мы 20 красавіка адчынім у тэатры "Музей анёлаў"? Батлейка для мяне — гэта, хутчэй, духоўная спадчына народа, чым рэлігійная. І "Музей анёлаў" таксама ствараецца пад гэтым знакам. Пачатковую экспазіцыю складуць мае работы, але я спадзяюся, што надалей людзі захочуць дапамагчы ў папаўненні музея. Што тычыцца веры, то я лічу: няверуючых людзей не існуе. Веруюць усе: хто ў Бога, хто ў прэзідэнта, нават у вар'ята ёсць свая Ісціна. Разважаць жа пра Бога не хачу: занадта шмат пра гэта іншыя сказалі...



Батлейка.

**— Сям'я Сідаравых — сям'я тэатральная. Вам гэта падабаецца?**

— Дзякуй Богу, я сапраўды задаволены сваімі роднымі: і жонкай, і дзецьмі. Гэта для мяне галоўнае. А тое, што старэйшая дачка працуе разам з намі ў тэатры, таксама нядрэнна. Я думаю, што агульныя турботы і праблемы яшчэ больш аб'ядноўваюць людзей.

**— Па словах сацыёлагаў, мастак — адна з прафесій, якая дапамагае захаваць маладосць. Вы на сабе гэта адчуваеце?**

— Нічога не чуў пра гэтыя сацыялагічныя даследаванні, таму старэю як усе.

**— Можаце ўзгадаць самы шчаслівы момант жыцця?**

— Самы — не ўспомню. А апошні, бадай што, запрашэнне на працу ў Віцебск.

**— Да таго, як Вас пераманілі ў "Ляльку", Вы працавалі ў іншых тэатрах. Які ўспамінаецца з настальгіяй?**

— "Пераманілі" — крыху не дакладна. Мы самі напрасіліся. Я ўдзячны Клімчуку, што ён рызыкнуў узяць нас у тэатр. Да "Лялькі" ў нашым з жонкай жыцці было толькі два тэатры — у Іванаве і Брэсце. Зычу ім поспехаў і дабрабыту, але настальгіі не адчуваю.

**— Вы лічыце, што Ваш творчы лёс склаўся ўдала?**

— Забабонным людзям, такім як я, гэткія пытанні не задаюць.

**— Ходзяць па тэатры чуткі, што чалавек, які здраджвае "Ляльцы", становіцца Вам, мякка кажучы, непрыемным...**

— У тэатры заўсёды ёсць людзі выпадковыя, і яны рана ці позна сыходзяць — гэта натуральна. Да таго ж бывае, што нейкі работнік і ісці нікуды не збіраецца, а лепш бы яго і не было — не ствараючы нічога, ён руйнуе асяроддзе тэатра. Аднак часам сыходзяць і вартыя асобы (не кожны можа пражыць на невялікую зарплату), але, звычайна, яны гэта робяць як прыстойныя людзі, не ствараючы праблем тэатру. І ў мяне да іх добрае стаўленне.

**— Некалькі слоў на развітанне.**

— Гэты тэатр стаў для нас родным, што больш казаць... Прыходзьце, глядзіце, будзем рады.

**Вікторыя ДАШКЕВІЧ,**
**спецыяльна**
**для газеты "Культура"**
*Віцебск*

# СПЕКТАКЛЬ ГОДА

***Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь выдала загад "Аб правядзенні конкурсу на лепшыя спектаклі года ў драматычных тэатрах і тэатрах лялек" у 1997 годзе.***

***Мэта і парадак правядзення конкурсу***

Конкурс на лепшыя спектаклі года праводзіцца ў мэтах заахвочвання і падтрымкі таленавітых творцаў у галіне тэатральнага мастацтва, садзейнічання далейшаму развіццю нацыянальных тэатральных традыцый, пошуку новых форм сцэнічнага ўвасаблення сучаснай і класічнай драматургіі.

У конкурсе прымаюць удзел драматычныя тэатры і тэатры лялек рэспубліканскага і мясцовага падпарадкавання, прыватныя тэатры, тэатры-студыі і іншыя.

На працягу каляндарнага года праводзіцца прагляд заяўленых тэатрамі лепшых новых спектакляў. Заяўкі на прагляд спектакляў падаюцца ў пісьмовай форме на адрас лабараторыі прафесійнага мастацтва Беларускага інстытута праблем культуры (220086, г.Мінск, вул.Каліноўскага, 12) у тэрмін да 15 лістапада бягучага года з указаннем усіх дадзеных па пастаноўцы (назва спектакля, прозвішча аўтараў, стваральнікаў і выканаўцаў) і тэрміну прагляду спектакляў членамі журы.

***Журы конкурсу***

Для вызначэння лепшых спектакляў у драматычных тэатрах і тэатрах лялек ствараецца журы конкурсу. Па выніках прагляду заяўленых тэатрамі спектакляў журы конкурсу ў студзені наступнага года падводзіць яго вынікі.

Журы конкурсу прысуджае дзве прэміі лепшым спектаклям у драматычных тэатрах і дзве — у тэатрах лялек і рэкамендуе лепшыя спектаклі для паказу на міжнародных і нацыянальных тэатральных фестывалях.

Журы вылучае пераможцаў конкурсу на падставе адкрытага альбо тайнага галасавання простай большасцю галасоў. Рашэнне журы з'яўляецца правамоцным, калі ў яго рабоце прымалі ўдзел не менш 2/3 членаў ад поўнага складу.

***Заахвочванне пераможцаў конкурсу***

У мэтах заахвочвання пераможцаў конкурсу на лепшыя спектаклі года ў драматычных тэатрах і тэатрах лялек устанаўліваюцца: дзве грашовыя прэміі (адна з іх за ўвасабленне беларускай драматургіі) па 100 мінімальных заработных плат кожная для драматычных тэатраў; дзве грашовыя прэміі (адна з іх за ўвасабленне беларускай драматургіі) па 50 мінімальных заработных плат кожная для тэатраў лялек. Пераможцы конкурсу ўзнагароджваюцца дыпломамі.

***Фінансаванне***

Фінансаванне выдаткаў на правядзенне конкурсу праводзіцца з цэнтралізаваных сродкаў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

# ЗАЛАТЫ ПОЯС РАЗЛАДУ

Усюды, дзе пішуць пра дачку вялікага князя Вітаўта, узгадваюць гэты пояс — залаты, з каштоўнымі каменнямі — лазурытам, яхантамі, аквамарынамі. Ён быў на стрыечным браце княжыча Васіля, сына Соф'і Вітаўтаўны, калі той прыйшоў на вялікакняжацкае вяселле. Носьбіта пояса клікалі Васіль Касы. Ён, як і яго родны брат Дзмітрый Шамяка, ішлі на тое вяселле не з лёгкімі сэрцамі, але, мабыць, не чакалі, што там здарыцца. Аднак перш чым расказаць пра вяселле маладога княжыча Васіля, сына Соф'і Вітаўтаўны і вялікага князя маскоўскага Васіля Дзмітравіча, сына Дзмітрыя Данскога, трэба як бы расставіць дзеючых асоб гэтага ў нечым трагічнага вяселля, дзе моцна перапляліся вялікакняскія інтарэсы і хцівасць, барацьба за маскоўскі стол і асабістае абагачэнне, інтрыгі і нянавісць.




*Вялікі князь Вітаўт, бацька Соф'і Вітаўтаўны.*

У 1386 годзе, уцякаючы з Арды ад гневу хана Тахтамыша (маскоўскія князі яшчэ ездзілі туды па ярлык на княжанне), малады Васіль Дзмітравіч, сын Данскога, атрымаў дапамогу ад вялікага князя Вітаўта, праз уладанні якога ён дабраўся да Масквы. Тады ж ён папрасіў рукі ягонай дачкі Соф'і, шлюб з якою адбыўся праз чатыры гады, бо яна разам з бацькам у час барацьбы з Ягайлам жыла ў валоданнях нямецкага Ордэна. Таму яе везлі, па летапісных запісах, "з-за мора". Трэба сказаць, што маскоўскі князь да канца сваіх дзён цёпла ставіўся да свайго цесця, за што яго шмат папракалі ўласныя баяры. Мабыць, сыграла тут сваю ролю і любоў князя да Соф'і, і яе моцны, як у бацькі, характар, дзякуючы якому яна стала ўплывовай постаццю пры двары, у адрозненне ад сваіх папярэдніц — маскоўскіх княгінь, пра якіх мы амаль нічога не ведаем, бо слядоў у палітычна-грамадскім жыцці яны не пакінулі. Дарэчы, цікава, што ў ранняй гісторыі Маскоўскай дзяржавы вялікую ролю сыгралі менавіта тры Соф'і: Соф'я Вітаўтаўна, Соф'я Палеалог, грэцкая царэўна, а таксама выхаванка Сімяона Полацкага, сястра Пятра І Соф'я. Можна смела сказаць, што апроч двух папярэдніх, па нараджэнні і выхаванні свабодных жанчын, апошняя, царэўна Соф'я, таксама ўспрыняла менавіта заходнія погляды на свабоду і роўнасць жанчын і, спалучыўшы іх з уласным славалюбствам і моцнай воляю, зрабілася ўладаркаю агромністай дзяржавы, хаця і саступіла пасля месца свайму брату.

Соф'я Вітаўтаўна, вядома, марыла аб тым, што на вялікакняжацкі стол сядзе ейны сын, хаця па звычаёваму праву спадчыннікам павінен быў пасля смерці вялікага князя рабіцца ягоны брат Юрый. І яна дабілася свайго: калі ў 1425 годзе, пасля трыццацішасцігадовага праўлення, памёр яе муж Васіль Дзмітравіч, ён паспеў прызначыць сваім пераемнікам дзесяцігадовага сына, прызначыўшы яму апекуном свайго цесця Вітаўта, просячы таго апекавацца малым унукам. І так лічыліся на Маскве з магутным воем-князем, што Юрый Дзмітравіч не стаў актыўна пратэставаць супраць завяшчання. Маўчалі і ягоныя сыны — Васіль Касы і Дзмітрый Шамяка. Тым болей, што ў 1427 годзе княгіня Соф'я ездзіла да бацькі і даручыла яму сына і ўсё маскоўскае княства.

Аднак калі Вітаўт у 1430 годзе памёр, князь Юрый як устрапянуўся. На месцы Вітаўта быў Свідрыгайла, ягоны сваяк, і можна было разарваць саюз з пляменнікам, каб заявіць аб сваім праве на стол. Дзеля гэтага ён паехаў у Арду, дзе яму дапамагаў адзін з уплывовых мурзаў Цягіня, спадзеючыся атрымаць ад хана ярлык на княжанне. Аднак тут умяшаўся баярын Іван Дзмітравіч Усеваложскі. Хітры і лоўкі, баярын паехаў услед і даказаў астатнім мурзам, што ўзвышэнне Юрыя пацягне за сабой узвышэнне Цягіні — і што будуць тады рабіць яны? Баярын Іван стараўся недарма: малады князь Васіль паабяцаў, калі яго не скінуць з княжання, ажаніцца з ягонаю дачкою.

Аднак, атрымаўшы ярлык на княжанне і перамогшы Юрыя, уладар Масквы не стрымаў абяцання. І не па сваёй волі. Мабыць, пабаяўшыся ўплывовага суперніка, яго маці, вялікая княгіня Соф'я, рашуча выступіла супраць дачкі Усеваложскага і абручыла сына з княжной Мар'яй Яраслаўнай, унучкай Уладзіміра Храбрага. Смяротна пакрыўджаны Іван Усеваложскі кінуўся да братоў Юрыя, каб праз іх дабіцца літасці ў пераможанага ягонай хітрасцю князя і накіраваць яго супраць уладара маскоўскага. Сыны ж Юрыя тым часам паехалі на вяселле свайго стрыечнага брата Васіля Васільевіча, магчыма, спадзеючыся наладзіць там сварку ці проста азмрочыць ягоную радасць: кожны з іх мог бы быць вялікім князем маскоўскім! Калі Васіль Касы, ззяючы сваім залатым пасам, накіраваўся на сваё месца паблізу вялікага князя, стары баярын Пётр Канстанцінавіч расказаў Соф'і Вітаўтаўне цікавую гісторыю паса. Некалі, аддаючы сваю дачку Еўдакію за Дзмітрыя Данскога, суздальскі князь Дзмітрый Канстанцінавіч аддаў за ёю у пасаг гэтую бясцэнную рэч. Аднак тысяцкі Васіль Вельямінаў, які распараджаўся на тым вяселлі, падмяніў пояс іншым, менш каштоўным. Ён быў сват Дзмітрыя Суздальскага, таму аддаў пас сыну Мікалаю, які быў жанаты з другою дачкою князя, Марыяй. Такім чынам атрымалася, што пояс замест адной сястры атрымала, праз мужа, другая. Яе дачка выйшла замуж за Івана Усеваложскага, ягоная ж унучка, у сваю чаргу, выйшла за



*Соф'я Вітаўтаўна.*

Васіля Касога, прынёсшы яму ў пасаг каштоўны пояс. Хутчэй за ўсё, ні Усеваложскі, ні Васіль Касы не ведалі, што пояс быў падменены, і тым болей не былі ў тым вінныя. Аднак Соф'я Вітаўтаўна не магла прапусціць такі выпадак. Тут жа, на вяселлі, яна аб'явіла, што пояс належыць іхняму роду, загадала Васілю зняць яго і, такім чынам, усенародна абразіла магчымых прэтэндэнтаў на маскоўскі стол, аб'явіўшы іхні род родам злодзеяў.

Юр'евічы ў той жа дзень абодва выехалі з Масквы, і гэта сталася прычынай для вайны: неўзабаве Юрый з сынамі падступіў да сталіцы, і захоплены знянацку Васіль Васільевіч трапіў у палон. Яго вызвалілі баяры, якія не хацелі падпарадкоўвацца самазванцам, і праз нейкі час састарэлы ўжо Юрый адмовіўся ад барацьбы. Аднак ад яе не адмовіліся ягоныя сыны. Многа нягод перацярпелі ў гэты час вялікі князь і ягоная маці. Самым жахлівым наступствам гэтай узаемнай нянавісці быў захоп вялікага князя ў Троіцкім манастыры. Сяргей Салаўёў апісвае гэта так: стоячы ля труны св. Сергія з абразом, Васіль стаў упрошваць братоў: "Браты мае! Пашкадуйце мяне! Дазвольце мне застацца тут, глядзець на вобраз Божы, Прачыстай Багародзіцы і ўсіх святых; я не выйду з гэтага манастыра, пастрыгуся тут". Аднак гэта не дапамагло: браты адвезлі свайго суперніка ў Маскву і ў ноч на 14 лютага 1446 года асляпілі яго, а пасля саслалі ў Угліч разам з жонкаю. Маці ж, вялікую княгіню Соф'ю Вітаўтаўну, адаслалі далей, на Чухламу. Ёй было тады пад восемдзесят, аднак усе нягоды яна цярпела мужна, так што нават ворагі яе былі змушаныя захапіцца сілай яе духу. І сапраўды, праз год яна была вызваленая, а вялікі князь вярнуўся на княжанне, хаця з таго часу яго празвалі, з-за ягонай слепаты, Васілём Цёмным.

Аднак галоўнае было яшчэ наперадзе. Праз пяць гадоў, у 1451 годзе, Маскву ізноў асадзілі татары. Вялікага князя ў горадзе не было. Старая княгіня ўзяла на сябе ўсе клопаты па арганізацыі абароны, а ў час бітвы падбадзёрвала войска. Дзякуючы яе мужнасці і незвычайнай сіле духу горад, куды яна прыехала шэсцьдзесят гадоў таму і дзе пражыла вялікае і доўгае жыццё, устояў.

Памерла яна праз два гады пасля гэтага, пакінуўшы большую частку сваіх вёсак, валасцей і гарадкоў любімаму ўнуку Юрыю Васільевічу, перажыўшы свайго мужа на 28 гадоў. Дарэчы, Васіль Дзмітравіч не пакрыўдзіў жонку — у сваім завяшчанні ён пакінуў ёй шмат валасцей, вось назвы некаторых з іх — "Калычоўскае са Змееўкай, Аглобліна з усімі вёскамі і з Альхом, вёска ў Лявічыне, з зямлёю Чухістава і з усімі прыкупамі" і г.д. Сярод любімых яе абразоў, што засталіся пасля смерці, — Прачыстыя Багародзіцы, святых Казьмы і Даміяна, святога Фёдара Страцілата. А залаты пояс? Ён упамінаецца ў завяшчанні ейнага сына Васіля Васільевіча і дастаўся ягонаму старэйшаму сыну. А пасля, мабыць, проста лёг у адну з магутных скрыняў маскоўскіх князёў, стаўшы адным з цьмы цем цаглінак, пакладзеных у падмурак магутнай імперыі. Дзе ён падзеўся пасля? Быў пераплаўлены ў цяжкія часы ці быў зноў украдзены падчас смутаў? Як бы там ні было, але, калі ён захаваўся, ён нікому не можа расказаць, колькі страсцей, добрых і злых, бушавала вакол яго ў наступныя стагоддзі, ды і ў тое, пятнаццатае, калі дачка Вітаўта брала яго ў свае рукі, каб палюбавацца бляскам камянёў і залатымі звівамі пласцінаў...

# ЦАГЛІНКІ НОВЫХ МУРОЎ



*Дзявочы касцюм XI–XII стст. Паўночная Беларусь.*

Ёсць кнігі, якія чытаюцца толькі аднойчы і ставяцца на паліцы назаўсёды. Ёсць і тыя, якія купляюцца толькі для ўпрыгожання тых самых паліц. Ёсць любімыя, ёсць і рабочыя, якія дапамагаюць у працы...

Кнігі Людмілы Дучыц ляжаць на маім рабочым стале. Прачытаныя па некалькі разоў, яны цяпер самыя, бадай што, частыя мае памочнікі. Бяру кнігу "Археалагічныя помнікі ў назвах, вераваннях і паданнях беларусаў" (Мн.: "Навука і тэхніка", 1993), якая выйшла пад рэдакцыяй М.Ткачова, раскрываю старонку. Ну, вось, хаця б гэтую — "Назвы каменных крыжоў": Кацярынін Крыж, Майсееўскі Крыж, Скарпіён, Стан-Круль. "Назвы каменных ідалаў": Ёлуп, Праўрыма, Стод, Трыглаў, Цар Давід. Нейкая даўняя, глыбінная, таямнічая энергія закладзеная ў гэтых назвах, выцягнутых з прадонняў нашай гісторыі. Працягла чытаю яшчэ колькі разоў, раздумваю. Што гэта — Праў-рыма? У "Этымалагічным слоўніку" Фасмера няма такога слова, але яно застаецца са мною, фантазія мая працуе... А можа, гэта працуе само гэтае слова, абуджаючы нейкую закладзеную ўва мне генную інфармацыю?

У лінгвістыцы ёсць сапраўды незвычайныя рэчы. Ну, вось узяць хаця б артыкул У.Шчарбакова "Вякі Траянавыя" з кнігі "Дарогамі тысячагоддзяў", дзе ён праводзіць паралелі славянскіх дахрысціянскіх імёнаў з надпісамі на старадаўніх фракійскіх надмагіллях. Няма ўжо фракійцаў, і ўспомненні пра іх даволі рэдкія, але чытаеш імёны — Вядзіла, Таруса, Вярыга, Мука, і тысячагоддзі змыкаюцца. Ён жа, У.Шчарбакоў, даказвае, што фракійскае імя Паёна — гэта продак славутага Баяна, а таксама Ваёна, Вайна, Вайнямейнен з "Калевалы"...

Пісьменніку, які піша на гістарычныя тэмы, цяжка, амаль немагчыма абысціся без дапамогі гісторыкаў і археолагаў. Але не так ужо і часта археолаг напіша такую кнігу, як, напрыклад, "Уарда". Можна пазайздросціць Сяргею Тарасаву ці Уладзіміру Арлову, прафесійным гісторыкам, якія цудоўна пішуць. Нам жа, філолагам, застаецца спадзявацца на прафесіяналаў. І ў гэтым сэнсе невялікая кніга Л.Дучыц "Касцюм жыхароў Беларусі X — XIII стст.", што выйшла ў той жа "Навуцы і тэхніцы" ў 1995 годзе, сапраўды неацэнная для тых, хто, падобна мне, піша (альбо напіша) пра першыя стагоддзі нашай пісьмовай гісторыі. На матэрыяле раскопак сабрана тут багата рэчаў, што насілі, чым упрыгожвалі сябе, што найбольш падабалася нашым продкам. "Верхнім адзеннем быў плашч, падбіты футрам. У летапісах плашч згадваецца як карзна, мятль, луда і інш. Насілі яшчэ кажухі і шубы, якія зверху абцягваліся шаўковай тканінай. Боты рабіліся з каляровай скуры, часта расшываліся залатымі ці сярэбранымі нітамі і нават упрыгожваліся каштоўнымі камянямі".

Чытай гэта і апранай любога



*Галаўны ўбор дзяўчыны.*



*Галаўны ўбор жанчыны.*

свайго героя ў любое з гэтых шыкоўных адзенняў, каб чытачы, якія наўрад ці палезуць у спецыфічна-навуковае выданне, маглі прачытаць гэта і яшчэ раз упэўніцца, што не толькі ў лапцях хадзілі нашы продкі... А пішучы пра князя Міндоўга і Войшалка, зазірнеш яшчэ на адну старонку і, прачытаўшы, што "ў Навагрудку бранзалеты былі вітыя, трохгранныя, рыфленыя, упрыгожаныя шкляной крошкай. Спецыфічна навагрудскімі лічацца бранзалеты, упрыгожаныя гарызантальнымі палосамі і жалабкамі, і шырокія рыфленыя", можаш спакойна апісваць навагрудчанак, што сабраліся ўлетку 1246 года на галоўнай плошчы горада дзеля таго, каб вітаць ахрышчанага ў праваслаўе новага навагрудскага князя, што пашырыў межы княства і ўзвялічыў ягоную славу.

А каб чытач мог зрокава ўявіць гэтыя ўпрыгожанні, археолаг Л.Дучыц у канцы кнігі змясціла і малюнкі. Трэба сказаць, што некаторыя з гэтых малюнкаў былі змешчаныя ў газетных ці часопісных публікацыях, якія чыталіся заўсёды з цікавасцю. А малюнкі... Той, хто ведае, што Людміла Уладзіміраўна — унучка славутага мастака Мікалая Дучыца, чыё стагоддзе з дня нараджэння было адзначана летась, не здзівіцца таму, што іскры таленту гэтага слаўнага сына Беларусі адгукаюцца праз пакаленне...

У абедзвюх кнігах сабраны багаты матэрыял, і ацаніць яго па-сапраўднаму можна тады, калі ўявіш, колькі месяцаў і тыдняў напружанай працы патрэбна археолагу, каб знайсці хаця б некалькі экспанатаў, адшукаць іх у нетрах зямлі, ідэнтыфікаваць з пэўнай эпохай. Вельмі сціплая і працавітая, Людміла Уладзіміраўна робіць сваю працу як сапраўдны энтузіяст, з любоўю і адданасцю роднай гісторыі.



*Мужчынскі касцюм XI–XII стст.*

Апошнім часам з'явілася нямала цікавых кніг па этнаграфіі, гісторыі, краязнаўстве, перавыдадзены працы тых, хто першы ўздымаў дзірван даўніны. У падручніках успомненыя імёны беларускіх князёў, вояў, асветнікаў, якія на тысячагоддзі выпалі з ужытку народа.

Кніжкі Людмілы Дучыц — цаглінкі муроў, што будуць адноўлены і ўзведзены на старажытным падмурку...

***Малюнкі Людмілы Дучыц***

**Аўтар матэрыялаў рубрыкі Вольга ІПАТАВА**

З РОГА ЎСЯГО МНОГА

# ПРА "ВЯСЁЛКУ", СІНЮЮ СІНІЦУ І МНОГАЕ ІНШАЕ




***Мне здалося, што я трапіў у сваё дзяцінства. Усё да болю знаёмае: атмасфера добразычлівасці і адчуванне нейкай казачнасці, Вася Вясёлкін, белы мядзведзь, жыраф, заяц... І самае галоўнае — сіняя сініца, якую можна ўзяць у рукі і загадаць любое жаданне... Я ўжо памкнуўся зрабіць гэта, але своечасова ўспомніў, што я на працы, таму стрымаўся і задаў галоўнаму рэдактару дзіцячага часопіса "Вясёлка" Уладзіміру ЛІПСКАМУ першае пытанне.***

**— Уладзімір Сцяпанавіч, "Вясёлцы" — 40 гадоў, яна стала сяброўкай многім пакаленням беларусаў. А як яна з'явілася на свет, дзе яе вытокі?**

— Трэба быць удзячным і таму часу, і тым людзям, якія вясной 1957 года згуртаваліся і стварылі часопіс для маленькіх дзетак. У мяне адзінае шкадаванне — што гэта не адбылося раней. Васіль Вітка, які быў першым рэдактарам часопіса, расказваў, што было шмат назваў, а выбралі адну і назвалі новы часопіс "Вясёлкай". І сапраўды — лепш не прыдумаеш. Вясёлка — гэта радасць, калі ўбачыш яе на небе. Вясёлка — гэта сем колераў і сем накірункаў для часопіса, ён павінен быць дасціпны, вясёлы, карысны, цікавы, мудры, разнастайны, даступны і шматколерны. Назва ў часопіса сімвалічная.

**— Чыя была ідэя стварыць такі часопіс?**

— Ідэя ўзнікла ў асяродку пісьменнікаў, і шмат у гэтым плане зрабіў Васіль Вітка. Ён змог згуртаваць у "Вясёлцы" лепшыя творчыя сілы, туды прыйшлі працаваць Артур Вольскі, Сяргей Грахоўскі, Алесь Пальчэўскі. Сам Васіль Вітка быў рэдактарам часопіса 17 гадоў, пасля часопіс рэдагавала паэтэса Еўдакія Лось, нейкі час Анатоль Грачанікаў, і я ўжо 18 гадоў.

За такі вялікі прамежак часу не так багата людзей працавала ў часопісе, акрамя названых — Казімір Камейша, Павел Марціновіч, цяпер два Міколы — Маляўка і Чарняўскі. Сюды прыходзяць па покліччы сэрца, бо працаваць для дзяцей — гэта святая справа. І я перакананы, што "Вясёлка" — адзін з лепшых нацыянальных дзіцячых часопісаў у Еўропе.

**— Якія задачы ставіліся перад новастворaным часопісам?**

— Умоўна кажучы, перад часопісам былі пастаўлены тры задачы. Першая, каб маленькія чытачы палюбілі родную мову, каб вывучалі яе сродкамі мастацкіх твораў, а не лозунгаў. Адсюль і патрабаванні да твораў — надрукавацца ў "Вясёлцы" не так проста, у нас ёсць матэрыялы на 2—3 гады, ёсць выбар.

Другая задача, каб дзеці палюбілі родны край, сваю Айчыну. У рубрыцы "Наша спадчына" мы распрацавалі новы жанр для маленькіх дзетак — гістарычны нарыс. І паводле матэрыялаў гэтай рубрыкі мы выдалі кнігу "Нам засталася спадчына". Пра постаці, пра падзеі, пра гісторыю на паўтары старонкі напісаць вельмі цяжка, ды яшчэ каб гэта было цікава і займальна. Таму мы прыцягваем да гэтага вядомых пісьменнікаў. Некалі папрасілі напісаць колькі казачак Уладзіміра Караткевіча, ён згадзіўся і зрабіў, але напісаў потым у лісце: "Хлопцы, каб я ведаў, якое цяжкае заданне вы мне далі, я б ніколі не пагадзіўся". А потым у яго выйшла кніга казак для маленькіх.

І трэцяя задача часопіса: навучыць дзетак паважаць дарослых — бацьку, маці і іншых людзей.

**— 40 гадоў і для чалавека, і для часопіса — узрост сталасці, можна гаварыць пра нейкія напрацоўкі, набыткі. Мы ўжо закранулі гэта пытанне: што было зроблена за час існавання часопіса?**

— Па сутнасці праз "Вясёлку" прайшлі ўсе творы для маленькіх дзетак, а пасля гэтага ўжо трапілі ў падручнікі для пачатковых класаў, у дзіцячыя зборнікі.

У нас ёсць слоўнік "Вясёлкі", тэатр Васі Вясёлкіна. Зараз Мікола Маляўка вядзе рубрыку "Музей "Вясёлкі", мы расказваем дзеткам пра такія рэчы, якіх мала засталося ў побыце — жорны, ступа, куфар. Гэта ўзбагачае і выхоўвае дзяцей. Ёсць "Тлумачальны слоўнік" "Вясёлкі", у якім мы тлумачым незразумелыя словы. Ідзе карпатлівая праца, мы плануем нумар як асобную кніжку, па сутнасці ў год выходзяць 12 арыгінальных кніжак.

У нас нараджаецца бібліятэка "Вясёлкі" — акрамя ўжо названай кнігі "Нам засталася спадчына", выйшлі дзве кнігі выбранага "Вясёлкі", да юбілею павінна з'явіцца трэцяя. "Урокі цікавых сустрэч" — калісьці была такая рубрыка, цяпер ёсць такая кніга.

Увогуле існуе цэлая індустрыя "Вясёлкі" — ёсць дзіцячы садок з аднайменнай назвай, кафэ "Вясёлка", дом адпачынку "Вясёлка", дзіцячая студыя ў Бабруйску, народны фотакінаклуб. Напісана некалькі песень пра "Вясёлку".

"Вясёлка" — гэта не маленькі часопіс, а самы вялікі, самы патрэбны.

**— Як будзе святкавацца юбілей "Вясёлкі"?**

— Мне б хацелася, каб гэта быў не проста юбілей "Вясёлкі", а свята дзяцей Беларусі. 20 красавіка ў 11 гадзін у Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі пройдзе ўрачыстае віншаванне юбіляркі, выступленні вядомых пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, артыстаў, прывітанні творчых дзіцячых калектываў. На святкаванні будзе ўручана ад часопіса "Вясёлка" прэмія імя Васіля Віткі першаму лаўрэату паэту Івану Муравейку, а таксама медаль з выявай Васіля Віткі, які можна насіць, як дзяржаўную ўзнагароду, і дыплом. На заканчэнне будзе пастаўлены спектакль "Прыгоды ў замку Алфавіт" — мне прыемна, што створаны ён паводле маёй кнігі "Вясёлая азбука".



**— Уладзімір Сцяпанавіч, у Вас ёсць нейкія творчыя планы, задумы?**

— У кожным нумары для зусім маленькіх дзетак мы вядзем раздзел "Каласавічок", а адзінаццаты нумар вось ужо пяць гадоў мы выдаем цалкам для самых маленькіх. Ёсць задума, каб "Каласавічок" стаў самастойным часопісам для дашкольнікаў, як і "Веселые картинки" і "Мурзилка" ў Расіі, ці "Малятка" і "Барвінок" на Украіне. Падмурак ужо падрыхтаваны.

**— Дзякуй за гутарку і — поспехаў Вам і "Вясёлцы".**

**Юбілярку віншаваў Міхась БАШУРА**



КУЛЬТУРА
**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Ігар КЛОКАЎ, Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 17.04.97. у 15.00.

Меркаванні аўтара могуць не адлюстроўваць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875.
Агульны наклад 3554
Замова 2259
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**